# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

ГАЛОЎНАЕ

Ў НУМАРЫ:



МАЙ 1935 г. 8

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Звязда“

# ЗМЕСТ



### АБ ГАЗЕТНЫХ КАДРАХ.



### ВЫВУЧАЕМ ВОПЫТ РАБОТЫ ФАБРЫЧНА-ЗАВОДСКАГА ДРУКУ МАСКВЫ І ЛЕНІНГРАДА



### ПІСЬМЫ З РЭДАКЦЫЙ



### КРЫТЫЧНЫЯ ЗАМЕТКІ



### АБМЯРКОЎВАЕМ ПЫТАННЕ АБ ПАДБОРЦЫ Ў ГАЗЕЦЕ



### ПАСЛЯ З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ



### ВУЧОБА РЭДАКТАРА

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

*Нам. адказнага рэдактара А. ЦЫПІНА*

КРАСАВІК 1935 г. № 8 (32)

Выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрас рэдакц і і выдавецтва: МЕНСК, Савецкая, 63, тэл. 22412

## 5-га МАЯ — ДЗЕНЬ БОЛЬШЭВІЦКАГА ДРУКУ

5 мая 1912 года вышаў у свет першы нумар штодзеннай масавай легальнай большэвіцкай газеты **«Правда»**.

«Паставіўшы штодзенную рабочую




газету, — пісаў **В. І. Ленін,** — пецербургскія рабочыя зрабілі буйную, — без пераўвелічэння можна сказаць, — гістарычную справу...»

«Дзень двух-гадовага юбілея газеты «Правда» зрабіўся днём падліку марксісцкіх сіл».

Гісторыя большэвіцкага друку з'яўляецца неразрыўнай састаўной часткай гісторыі большэвіцкай партыі. У артыкуле, прысвечаным 10-гадоваму юбілею «Правды», Ленін пісаў:

«10-гадовы юбілей штодзеннай легальнай большэвіцкай «Правды» паказвае нам нагдядна адну з вех вялікага ласкарэння найвялікшай сусветнай рэволюцыі. У 1906-1907 гадах царызм разбіў рэволюцыю, здавалася-б, канчатаву. Большэвіцкая партыя здолела праз

нямнога гадоў прасунуцца — ў іншай форме, па-іншаму — у цытадэль ворага і штодзенна «легальна» пачаць работу ўзрыву праклятага царскага і памешчыцкага самадзяржаўя знутры. Мінула яшчэ нямнога гадоў, і арганізуемая большэвізмам пролетарская рэволюцыя перамагла».

Большэвіцкая «Праўда» сваім выхадам у свет узначаліла пачаўшыйся ленскімі падзеямі рэволюцыйны ўздым ў Расіі. «Праўда» пад кіраўніцтвам большэвіцкага Цэнтральнага Камітэта і правадыроў пролетарскай рэволюцыі **Леніна і Сталіна** была мацнейшай зброяй у руках партыі ў яе барацьбе за перамогу Окцябрскай рэволюцыі, была магутнейшым таранам, разбураўшым цвярдыні капіталізма.

«Праўда» заўсёды паказвала і паказвае ўзоры баявой арганізацыі мільёнаў працоўных пад сцягам партыі большэвікоў, на барацьбу за перамогу і ўмацаванне дыктатуры пролетарыята, за перамогу комунізма.

Вялікі і слаўны шлях ленінскай «Праўды».

«Праўда», створаная і выпеставаная Леніным і Сталіным, прадстаўляе сабой класічны ўзор праведзення пролетарскага інтэрнацыяналізма, большэвіцкай паслядоўнасці, партыйнай страстнасці і непрымірымасці к ворагам і яго агентуры.

У барацьбе з буржуазнай агентурай у радах партыі, апартуністамі ўсіх колераў і адценняў, контррэволюцыйным трацкізмам, здраднікамі - штрэйкбрэхерамі ў Окцябры 1917 года Каменевым, Зіноўевым і інш., трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыяй, «левымі» фразерамі, правымі ўхілістамі, права-«лявацкімі» вырадкамі і прымірэнцамі да іх, нарэшце, у барацьбе супроць подлых падонкаў трацкізма і тройчы праклятай зіноўеўска-каменеўскай групы, выкрываючы і сакрушаючы іх, большэвіцкая «Праўда» заўсёды давала «ўзор і светач усяму народу» **(Ленін),** высока і непахісна несла і нясе вялікі непераможны сцяг Маркса - Энгельса - Леніна - Сталіна.

На прыкладзе «Праўды» вучыцца ўвесь друк нашай неасяжнай соцыялістычнай радзімы — СССР.

Іменна «Праўда» паказвае бліскучыя ўзоры работы друку ва ўмовах дыктатуры пролетарыята, перамогі соцыялізма. «Праўда» з усёй паслядоўнасцю і большэвіцкім запалам з дня ў дзень ажыццяўляе вялікі завет Леніна аб тым, што

«друк павінен служыць зброяй соцыялістычнага будаўніцтва, знаёмячы ва ўсіх дэталях з поспехамі ўзорных комун, вывучаючы прычыны іх поспеху, прыёмы іх гаспадаркі, ставячы, з другога боку, «на чорную дошку» тыя комуны, якія ўпорна захоўваюць «традыцыі капіталізма», г. зн. анархіі, лодырнічання, беспарадку, спекуляцыі...» «У нас мала выхавання мас на жывых канкрэтных прыкладах і ўзорах з усіх галін жыцця, а гэта — галоўная задача прэсы ў часе пераходу ад капіталізма к комунізму».

У вырашэнні гэтай задачы «Праўда» паказвае большэвіцкі прыклад для ўсяго друку СССР.

Вось чаму «Дзень друку» непарыўна звязан з любімым усёй партыяй, усім народам нашай вялікай радзімы імем «Праўды». Вось чаму ў «Дзень друку» мы праводзім большэвіцкую самаправерку, як па прыкладу «Праўды» выконваюць свае задачы ўсе газеты раёнаў, фабрык, соўгасаў і МТС.

5 мая—дзень выхаду першага нумара ленінскай «Праўды» — свята большэвіцкага друку.

Якія задачы стаяць перад Днём друку ў бягучым годзе? Якія формы работы і арганізацыі мы павінны прымяніць, каб з усёй вартасцю адзначыць гэты слаўны, радасны дзень?

Гэтыя задачы вызначаюцца асаблівасцямі цяперашняга этапа будаўніцтва соцыялізма.

БССР, як і ўвесь вялікі Саюз ССР, на аснове трыумфу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі дасягнула гіганцкага росту соцыялістычнай гаспадаркі і пролетарскай культуры. Краіна ўступіла ў новы вышэйшы клас будаўніцтва соцыялізма. З небывалым яшчэ дагэтуль творчым энтузіязмам, найшырэйшым разгортваннем соцыялістычнага спаборніцтва ідзе ўдарная праца на

соцыялістычных палях. Мільёны калгаснікаў, рабочых соўгасаў і МТС пад кіраўніцтвам бальшэвіцкай партыі правядзеннем ранняй сяўбы ствараюць магутную базу для атрымання рэкорднага ўраджаю. Соцыялістычныя прадпрыемствы ў значнай колькасці сталі і становяцца прадпрыемствамі суцэльнай тэхнічнай граматнасці, прадпрыемствамі, якія ўжо працуюць «на выдатна». Наша рэспубліка, непрыступны соцыялістычны фарпост на заходняй мяжы з капіталістычным светам, штодзенна ўмацоўваючы сваю абаронную моц, стала рэспублікай ордэнаноснай. Няма больш адсталай, некультурнай Беларусі. Есць перадавая ў Совецкім Саюзе ордэнаносная БССР, кіруемая ордэнаносцамі—лепшымі бальшэвікамі тт. **Гікало і Галадзедам.**

Гэтых велізарных поспехаў БССР дабілася пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, пад кіраўніцтвам тав. **Сталіна,** пры велізарнай брацкай дапамозе пролетарыята ўсяго Совецкага Саюза.

Уся наша краіна сёння жыве адным імкненнем — працаваць яшчэ лепш, у найкарацейшы тэрмін ператварыцца ў краіну соцыялістычнага багацця. Вось чаму ў нашай краіне так моцна многагалосае веснавой радасці, рэволюцыйнай бадзёрасці, з якой сустракаюць працоўныя міжнароднае пролетарскае свята — Першае мая.

Перамога соцыялістычнага ладу ўсё больш паскарае працэс творчай работы мільёнаў працоўных — будаўнікоў бясокласавага соцыялістычнага грамадства. Працэс грандыёзнейшай перакоўкі свядомасці людзей у незмернай ступені скарачае тэрміны сяўбы на соцыялістычных палях, павялічвае абароты машын на вытворчасці, паскарае рух нашых паяздоў.

Усе гэтыя акалічнасці вызначаюць новыя задачы бальшэвіцкага друку.

Нязмерна ўзросшая культурнасць мільёнаў працоўных прад'яўляе новыя патрабаванні нашаму друку. На сёнешні дзень ужо ні ў якім разе нельга мірыцца з тым, калі значная колькасць раённых, фабрычна-заводскіх і соўгасных газет прадстаўляюць сабой шэрыя бледныя старонкі. Усё ўзрастаючыя культурныя запатрабаванні працоўных мас перш за ўсё павінны знайсці свой адбітак на старонках нашых газет. У гэтых адносінах кожная газета павінна раўняцца па «Праўдзе», якая знаходзіць новыя творчыя шляхі для ўсё лепшага афармлення сваіх старонак.

Аўладаць майстэрствам бальшэвіцкі завостранай, глыбока партыйнай падачы і афармлення матэрыялаў у газеце.

Шырэй разгарнуць бальшэвіцкую самакрытыку сярод работнікаў друку для таго, каб з практыкі работы газет выкараніць праяўленні «лёгкаважкасці», пенказдымацельства, слізгання па гладкай паверхні, так ярка раскрытыкаваных яшчэ старым Шчэдрыным.

Выхаваць кожнага работніка друку ў духу бальшэвіцкіх традыцый «Праўды».

Глыбока, усебакова, у дэталях ведаць справу, ведаць людзей. У кожным артыкуле, заметцы, на жывых прыкладах вучыць, як трэба працаваць, як лепш паставіць справу, паказаць, што трэба зрабіць у данную мінуту, выходзячы з данага становішча рэчаў.

Кожнай заметкай, кожным артыкулам узнімаць на вышэйшую ступень якасць работы, арганізацыі справы.

«Умець **гаварыць проста** і ясна, даступнай масе мовай, рашуча адкінуўшы прэч цяжкую артылерыю мудроных тэрмінаў, замежных слоў, завучаных, гатовых, але незразумелых яшчэ масе, не знаёмых ёй лозунгаў, вызначэнняў, заключэнняў» **(Ленін).**

Навучыцца ставіць тыя пытанні, якія маюць найбольш важнае, вядучае значэнне. Рашуча выкараніць штамп, шаблон, праяўленне неахайнасці, фразёрства, пустазвонства.

Гэтыя задачы стаяць перад кожнай газетай, кожным газетным работнікам.

Для таго, каб рашуча палепшыць якасць газет, «перавесці ўсе нашы газеты ў новы, вышэйшы клас, адпавядаючы новым патрабаванням партыі, патрабаванням эпохі росквіту совецкага дэмакратызма» **(«Праўда»)**, побач з сур'ёзным умацаваннем газетных кадраў трэба дабіцца таго, каб кожны работнік газеты быў узброен вучэннем Маркса-Энгельса - Леніна - Сталіна. Трэба не толькі ведаць і глыбока разумець гэта вучэнне, трэба кіравацца ім у штодзеннай практычнай рабоце, каб правільна зразумець і ацаніць у агульнай сувязі кожную канкрэтную з'яву.

Іменна гэта ў першую чаргу патрабуецца ад работнікаў друку для таго, каб з поспехам і высокаякасна вырашыць задачы, пастаўленыя перад друкам апошнім пленумам ЦК КП(б)Б у пастанове аб арганізацыйна-масавай і палітычна-выхаваўчай рабоце.

Умела, па-праўдзіснцку паставіць у газеце аддзел партыйнага жыцця — у гэтым цяпер адна з галоўных задач кожнай газеты.

«Дзень друку» у гэтым годзе праводзіцца як масавая палітычная кампанія, як пяцідзённік друку (з 5 па 10 мая).

Лозунгам праводзімага пяцідзённіка друку з'яўляецца: узмацненне ролі газеты ў барацьбе за якасць партыйна-масавай і ідэйна-выхаваўчай работы партыйных арганізацый, павышэнне прапагандысцкага і культурнага ўзроўню газет, умацаванне масавай работы газет на рашаючых участках народнай гаспадаркі.

Асаблівая ўвага ў правядзенні пяцідзенніка друку павінна быць аддана папулярызацыі гісторыі бальшэвіцкага друку. На аснове вывучэння твораў Леніна і Сталіна трэба завастрыць увагу на асноўных этапах барацьбы бальшэвіцкага друку супроць класавага ворага і яго агентуры — контррэвалюцыйных трацкістаў, зіноўеўцаў, апартуністаў усіх колераў, на неабходнасці павышэння рэвалюцыйнай пільнасці работнікаў друку і рабселькораў на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

«Дзень друку» з'яўляецца баявым аглядам сіл бальшэвіцкага друку. Таму шырокі паказ лепшых узораў работы нізавых газет, перадавых рабкораў, паказ усяго таго, чым ганарыцца дадзеная газета (лепшымі выхаванымі ёю людзьмі і т. д.) павінен заняць віднае месца на старонках газеты.

Прыцягнуць да непасрэднага ўдзелу ў рабоце газеты знатных людзей прадпрыемстваў, калгасаў, соўгасаў і МТС, пашырыць за лік іх рабселькораўскія рады, разгарнуць найшырэйшую крытыку недахопаў газеты самімі чытачамі і рабселькорамі.

Арганізаваць шырокую масавую праверку выканання кожнай газетай задач, пастаўленых у звароце III усебеларускага з'езда рабселькораў, масавую праверку таго, як шматтыражкі, насценныя газеты, рабселькоры ўключыліся ва ўсебеларускі паход імя тав. **Гікало** за лепшы ў свеце лён, як, разгортваецца вытворчы паход за ператварэнне ўсіх прадпрыемстваў БССР у прадпрыемствы суцэльнай тэхнічнай граматнасці і інш.; шырэй разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва ў праводзімым усебеларускім конкурсе - спаборніцтве насценных і раённых газет,—вось асноўныя задачы пяцідзенніка друку.

Формы правядзення пяцідзенніка друку Культпропам ЦК КП(б)Б рэкамендуюцца наступныя.

Канферэнцыі чытачоў, злёты рабселькораў пад лозунгам павышэння якасці газеты, узмацнення ідэйна-выхаваўчай работы сярод рабселькораў: арганізацыя выставак друку, заслухоўванне дакладаў рэдактароў газет на пасяджэнні бюро партыйнага камітэта, партыйным сходзе; арганізацыя новых рабселькораўскіх семінараў, курсаў: праверка пастаноўкі якасці вучобы рабселькораў і работнікаў друку.

Кожная газета павінна распрацаваць дакладны план правядзення пяцідзенніка друку, забяспечыўшы яго бліскучае выкананне, прыцягнуўшы для гэтага шырокі раённы партыйны актыў.

Уручэнне ордэна Леніна БССР, яе кіраўнікам тт. **Гікало** і **Галадзеду** прыўрочана к часу скончэння веснавой сяўбы. Гэты урачысты дзень будзе ператвораны ва ўсенароднае свята. У разгортваемым зараз соцыялістычным спаборніцтве паміж БССР, Заходняй Сібір'ю і Заходняй вобласцю друк можа і павінен адыграць выключную ролю.

Па-сапраўднаму дапамагчы партыйнай арганізацыі заваяваць першынства БССР у спаборніцтве з Заходняй Сібір'ю і Заходняй вобласцю — баявая задача ўсяго друку БССР. Дапамагчы сваёй партарганізацыі заваяваць першынства ў спаборніцтве раёнаў, заваяваць права ўдзелу ва ўсенародным свяце — задача кожнай раённай, кожнай нізавой газеты.

У пачэснай справе ўдзелу ва ўрачыстым святкаванні павінны заваяваць сабе права і работнікі друку. А шлях к гэтаму — бальшэвіцкае выкананне задач, пастаўленых у звароце III усебеларускага з'езда рабселькораў, бліскучае правядзенне пяцідзенніка друку.

С. ДАНІЛІН.

# ЧАМУ МЫ СВЯТКУЕМ ДЗЕНЬ ДРУКУ

ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

5 мая 1912 года (22 красавіка па старому стылю) вышаў першы нумар штодзённай масавай большэвіцкай газеты **«Правда».** Гэту дату з года ў год мы адзначаем як дзень большэвіцкага друку.

Два гістарычныя факты трэба мець на ўвазе, калі мы вывучаем гісторыю стварэння «Правды».

**Першы**—гэта рашэнне пражскай канферэнцыі большэвіцкай партыі, якая адбылася ў студзені 1912 года, аб выданні штодзённай газеты.

Вясна 1912 года была вясной бурнага ўздыму рабочага руху. Тады партыя вяла жорсткую барацьбу з меншавікамі-ліквідатарамі, якія заселі ў прафсаюзных арганізацыях. Трэба было да канца выкрыць ліквідатараў і выгнаць іх з страхавых кас і іншых легальных рабочых арганізацый. У тойжа час без масавай штодзённай газеты ўсё цяжэй і цяжэй станавілася кіраваць разрастаўшымся рэвалюцыйным рухам. І пражская канферэнцыя, стварыўшая большэвіцкі Цэнтральны Камітэт, паставіла пытанне аб выданні штодзённай масавай газеты.

**Другі факт,** які трэба мець на ўвазе пры вывучэнні гісторыі «Правды»—гэта тое, што «Правда» была створана самімі рабочымі, на сродкі рабочых. Пасля ленскага расстрэлу ўся краіна была ахоплена забастоўкамі. Рэвалюцыйны рух пролетарыята, які пачаў расшырацца пасля гадоў рэакцыі, быў прасякнут выключнай палітычнай свядомасцю. Рабочыя добраахвотна афяравалі свае працоўныя капейкі і пятакі на выданне «Правды». Без такіх намаганняў саміх рабочых «Правда» не магла-б выходзіць.

Таварыш **Сталін,** як член ЦК партыі большэвікоў, прымаў непасрэдны кіруючы ўдзел у стварэнні «Правды». Ён прысутнічаў на першым арганізацыйным сходзе, дзе вызначаўся палітычны твар «Правды», а таксама вырашаліся тэхнічныя, матэрыяльныя пытанні яе выдання. «Гэта было ў сярэдзіне красавіка 1912 г. увечары, на кватэры ў т. Палетаева, дзе два дэпутаты думы (Пакроўскі і Палетаеў), два літаратары (Ольмінскі і Батурын) і я, член ЦК (я як нелегальны сядзеў у «бесце» ў «недатыкальнага» Палетаева), згаварыліся аб платформе «Правды» і склалі першы нумар газеты». (З артыкула тав. **Сталіна** «К десятилетию «Правды»).

«Правда» адразу стала ў цэнтры барацьбы за большэвіцкую партыйнасць. Яна пранікла на ўсе заводы і фабрыкі.

**Большэвіцкія газеты ўвесну 1917 года: ЦО «Правда»; «Солдатская правда» (газета ваеннай арганізацыі пры ЦК большэвікоў); «Социал-демократ» — орган Маскоўскага бюро ЦК.**

* * *



Другі нумар «Праўды» за 24 красавіка 1912 года

★ ★ ★

Яна дапамагала ўстанаўляць на прадпрыемствах партыйныя ячэйкі, змагаючыся за ператварэнне іх у апорныя пункты партыі. Яна стварыла вакол сябе густую сетку пісавых карэспандэнтаў і з'явілася ў гэтым сэнсе першай, магутнай школай выхавання рабкораўскага руху ў духу большэвізма. **З дапамогай «Праўды» ліквідатары былі зняты з усіх пастоў у легальных арганізацыях, у прафсаюзных аб'яднаннях і страхавых касах.**

Верасень 1912 года быў асабліва вострым і важным этапам у жыцці «Праўды» і партыйнай арганізацыі. У сувязі з выбарамі ў дзяржаўную думу адбывалася жорсткая барацьба з ліквідатарамі, з буржуазнымі партыямі. І ў гэты востры момант кіраўніцтва ў рэдакцыі было ўскладзена на таварыша **Сталіна.** Хаваючыся ад паліцыі, таварыш **Сталін** у верасні 1912 года прыняў на сябе кіраўніцтва «Праўдой». Уладзімір Ільіч **Ленін,** які к гэтаму часу пераехаў з Парыжа ў Кракаў, бліжэй да рускай граніцы, часта прысылаў у «Праўду» свае артыкулы.

Наколькі паспяхова і энергічна праводзіла ў той час «Праўда» масавыя кампаніі супроць ворагаў пролетарыята, паказвае адзін з эпізодаў гэтай барацьбы. У снежні 1912 года пецярбургскія рабочыя абвясцілі аднадзённую забастоўку пратэсту супроць насілля ўлад. Меншавікі-ліквідатары паказалі гэты рух, як «выступление незначной кучкі рабочых». «Праўда» выкрыла гэты гнусны выпад ліквідатараў. У № 47 «Праўды» быў надрукаван артыкул І. Сталіна «Положение в с.-д. фракции», накіраваны супроць ліквідатараў.

**Ліквідатары былі выкрыты як кучка буржуазных агентаў і разгромлены.** «Упорная і самаадданая работа старой «Праўды»,—пісаў таварыш **Сталін** у артыкуле «К десятилетию «Правды», —у значнай меры падрыхтавала і паскорыла гэту перамогу над ліквідатарамі. У гэтым сэнсе старая «Праўда» была несумненна прадвесніцай будучых слаўных перамог рускага пролетарыята». (Зборнік «О пролетарской печати», 1932 г., стар. 80).

5 ліпеня 1913 года друкаванне «Праўды» пастановай судовай палаты было забаронена. Аднак, «Праўда» аж да самай імперыялістычнай вайны прадаўжала выходзіць пад другімі назвамі на ранейшым высокім узроўні сваёй прынцыповай партыйнай вытрыманасці і сваёй непрымірымасці ў барацьбе з апартунізмам і царызмам. Спробы самадзяржаўя задушыць пролетарскую газету разбіваліся аб большэвіцкую цвёрдасць, боездольнасць і непахісную волю да барацьбы ленінскай партыі з



«За праўду» пад такой назвай вышла «Праўда» ў кастрычніку 1913 года.

царызмам і буржуазіяй. Забароненую «Праўду» замяніла **«Северная правда»**, пасля яе закрыцця стала выходзіць **«Правда труда»**, потым **«За правду»**, **«Пролетарская правда»**.

22 студзеня 1914 года пачала выходзіць газета **«Путь правды»**. Радакцыя «Пути правды» вырашыла скарыстаць надыходзячую другую гадавіну існавання «Праўды» для таго, каб абвясціць гэту гадавіну **Днём рабочага друку.** 19 красавіка 1914 года ў «Пути правды» было надрукавана **«Воззвание к разуму рабочих». «Дзень рабочага друку**—гаварылася ў гэтай адозве,—**павінен быць днём праяўлення рабочай мыслі. У дзень рабочага друку рабочыя павінны заявіць: мы спачуваем марксізму, а не ліквідатарству».**

23 мая на змену закрытаму 21 мая «Пути правды» пачала выходзіць штодзенная газета **«Трудовая правда»**. Яна была закрыта напярэдадні імперыялістычнай вайны. У сувязі з пачаўшайся ў хуткім часе імперыялістычнай вайной, узмацненнем шавінізма і тэрору знікла ўсякая магчымасць выдаваць легальную бальшавіцкую газету.

«Праўда» аднавіла свой выхад у 1917 годзе. 8 сакавіка 1917 года яна выйшла пад першапачатковай сваёй назвай—**«Правда»**. Ленін пасля свайго прыезду неадкладна ўвайшоў у рэдакцыю «Праўды» і амаль штодзенна пісаў для яе артыкулы. Самы блізкі ўдзел у кіраўніцтве газетай прымаў таварыш **Сталін**. У спісе яе пастаянных супрацоўнікаў былі—Калінін, Петроўскі і інш. «Правда» выкрывала палітыку буржуазнага ўрада Керэнскага і рыхтавала рабочы клас к Октябрскаму штурму. Пад кіраўніцтвам **Леніна** і **Сталіна** яна адыграла **выключную ролю па заваяванню** велізарнай большасці рабочага класа і працоўных мас.

5 ліпеня атрад юнкероў разграміў рэдакцыю і друкарню «Праўды». На другі дзень была разгромлена і рэдакцыя другой бальшавіцкай газеты **«Солдатская правда»**. Юнкеры спалілі і знішчылі да дзесяці тысяч салдацкіх пісем, атрыманых **«Солдатской правдой»** з фронта.

Рэдакцыя «Праўды» пераматаючы велізарныя затрудненні, выпусціла **«Листок правды»**. Але юнкеры забілі



**«НАШ ПУТЬ»—пад такой назвай выходзіла «Правда» ў жніўні 1913 года.**

* * *

рабочага Івана Воінава, які вынес першыя пачкі «Листка правды» для раздачы рабочым.

13 жніўня 1917 года вышаў першы нумар газеты **«Пролетарий»**. Пасля «Пролетария», закрытага на дзесятым нумары, вышла 12 нумароў газеты **«Рабочий»**. На змену «Рабочему» стала выходзіць газета **«Рабочий путь»**.

Рэдактарам «Рабочего пути» быў таварыш Сталін. У гэтай газеце былі надрукаваны выдатныя артыкулы Леніна—«Русская революция и гражданская война», «Задача русской революции», «Письмо к товарищам» і іншыя. 24 кастрычніка ў друкарню, дзе друкаваўся «Рабочий путь», варваліся юнкеры і канфіскавалі гатовыя нумары газет. У адказ на гэта **ваенна-рэвалюцыйны камітэт** Петраграда пастанавіў: 1) **друкарні рэвалюцыйных газет адкрыць, 2) прапанаваць рэдакцыям і наборшчыкам прадаўжаць выпуск газет, 3) пачэсны абавязак аховы рэвалюцыйных друкарань ад контррэвалюцыйных замахаў ускладаецца на доблесных салдат Літоўскага палка і 6-га запаснага сапёрнага батальёна.** Пастанова ваенна-рэвалюцыйнага камітэта была выканана.

26 кастрычніка на другі дзень Октябрскага паўстання «Правда» вышла пад ранейшай сваёй назвай—**«Правда»**. Яна абвясціла: «Часовы ўрад скінут.. Уся ўлада пераходзіць к советам». «Ад гэтага часу,—пісала «Правда» 27 кастрычніка—мы будзем прадаўжаць барацьбу пад старым сцягам «Правды», у якой працоўныя масы прывыклі бачыць выражэнне сваёй рэволюцыйнай мыслі і волі».

У гады грамадзянскай вайны «Правда» пад кіраўніцтвам партыі згуртоўвала і арганізоўвала масы працоўных на абарону Окцябрскіх заваяванняў, на барацьбу з белагвардзейшчынай і інтэрвенцыяй. У гэты перыяд найвялікшы правадыр пролетарскай рэволюцыі Ленін, асабіста кіраваўшы нашым большэвіцкім друкам, змяшчаў у «Праўде» свае геніяльныя артыкулы і прамовы. Яны ўсялялі бадзёрасць і ўпэўненасць у сэрцы мільёнаў абаронцаў рэволюцыі, натхнялі іх на барацьбу з голадам і разбурэннем, з белагвардзейскімі бандамі Калчака, Дзенікіна, Юдзеніча і Врангеля і іншаземнымі інтэрвентамі. У «Праўде» быў надрукован таксама рад артыкулаў тав. **Сталіна** аб становішчы на асобных франтах (усходнім, паўднёвым, петраградскім, польскім). Гэтыя артыкулы, якія адрозніваліся выключнай глыбінёй і яснасцю аналізу, аказалі велізарную дапамогу рабочым і сялянам совецкай рэспублікі ў іх пераможнай барацьбе з ворагамі.

Пасля сканчэння грамадзянскай вайны партыя прыступіла з начатку да аднаўлення, а потым і да соцыялістычнай рэканструкцыі нашай гаспадаркі. «Правда» прадаўжала ўзнімаць і арганізоўваць працоўныя масы на вырашэнне палітычных і гаспадарчых задач. Пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК партыі «Правда» давала адпор усім апазіцыйным атакам на лінію партыі з боку паграззшых у дробнабуржуазным балоце «левых комуністаў» і розных меншавіцтвуючых груповак, давала адпор контррэволюцыйнаму трацкізму на ўсіх стадыях яго барацьбы з партыяй, давала адпор «леваму» апартунізму, які маскуецца «левай» фразай, і праваму, адкрытаму апартунізму — кулацкай агентуры ў радах партыі.

«Апартуністы разумелі ролю «Праўды», значэнне набытага ёю пад кіраўніцтвам партыі аўтарытэту. Яны прабавалі скарыстаць гэты аўтарытэт супроць партыі, але атрымлівалі жорсткі адпор. Так было, напрыклад, у першы перыяд барацьбы з трацкізмам—у 1923 годзе, у першыя месяцы барацьбы з правай бухарынскай апазіцыяй, калі ў апараце «Правды» прабавалі акапацца правыя апартуністы» («Дваццать лет», «Правда», № 123, 1932 г.).

У гады разгорнутага соцыялістычнага наступлення, у гады індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як класа, у гады ўздыму работы нашых арганізацый на ўзровень новых задач «Правда», пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК партыі і асабіста тав. **Сталіна**, увесь час была лепшым памочнікам партыі ў пабудове фундамента соцыялістычнага грамадства. З выключнай яркасцю і нагляднасцю яна прапагандавала бліскучыя ўзоры барацьбы за соцыялізм, паказвала герояў соцыялістычнай будоўлі і, побач з гэтым, бязлітасна выкрывала і бічавала канкрэтных віноўнікаў недахопаў. Яна змагалася за разгортванне пролетарскай самакрытыкі, супроць яе зажыму і скажэнняў. Яна служыла наглядным прыкладам для ўсяго нашага большэвіцкага друку, як трэба распазнаваць і выкрываць разгромленага класавага ворага і яго подлую агентуру, пад якой-бы шыльдай яны ні хаваліся.

«Правда» бязлітасна ўскрывала і ўскрывае подлыя падонкі трацкізма і зіноўеўшчыны, якія з дапамогай ашуканства і двурушніцтва прабраліся на асобныя ўчасткі і вядуць там сваю злачынную работу. З дапамогай «Правды» партыя яшчэ вышэй узнімае класавую рэволюцыйную пільнасць комуністаў, мабілізуе іх на аўладанне маркс-сісцка-ленінскай тэорыяй, на вывучэнне слаўнай гісторыі большэвізма, асабліва пасля Окцябрскага перыяда. Мільёны сэрцаў будаўнікоў соцыялізма «Правда» запальвае агнём творчага энтузіязму, падымае масы пролетарыяў і калгаснікаў на новыя геройствы ў барацьбе за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Уся гісторыя большэвіцкага друку, як мы бачым, непарыўна звязана з масавым рухам пролетарыята, з рэволюцыйным ростам працоўных. **Наш**

**друк—друк саміх працоўных.** Вось чаму і дзень друку павінен праходзіць у нас як свята ўсіх працоўных. Росквіт савецкай дэмакратыі ў СССР яшчэ больш узмацняе цяпер значэнне ўдзелу мас у друку. Дзень друку ў гэтым годзе павінен праводзіцца **як масавая палітычная кампанія.** Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на ўзмацненне ролі друку ў барацьбе за якасць партыйна-масавай, ідэйна-выхаваўчай работы партыйных арганізацый.

Гэты дзень павінен спрыяць яшчэ большаму павышэнню прапагандысцкага і культурнага ўзроўню газет і ўмацаванню масавай работы газет на рашаючых участках народнай гаспадаркі.

Сёлетні Дзень друку праходзіць пад знакам далейшага пашырэння і ўмацавання сувязі друку з масамі, развучэння традыцый большэвіцкага друку, яшчэ большага павышэння класавай рэвалюцыйнай пільнасці, пад знакам барацьбы газет за паляпшэнне кіраўніцтва работай рабселькораў і больш глыбокага выхавання з іх асяроддзя кадраў нашых газет.

**Б. ШПІТАЛЬНІК.**

# „ЗВЕЗДА" Ў 1917 ГОДЗЕ

## (КАРОТКІ АГЛЯД)

У гэтым артыкуле мы хочам коратка расказаць аб адным з этапаў барацьбы большэвіцкай газеты **«Звезда»** — аб прадакцябрскім перыядзе.

Першы нумар «Звезды» з'явіўся ў свет 27 ліпеня (9 жніўня — па новаму стылю) 1917 г. «Звезда» пачала выходзіць у перыяд узмоцненай рэакцыі, у перыяд, калі контррэвалюцыйны Часовы ўрад пасля ліпеньскіх падзей 1917 года перайшоў у наступленне на пралетарыят, стаў праводзіць масавыя арышты большэвікоў, граміць большэвіцкія арганізацыі і іх друк.


ЗВѢЗДА

№ 5.—№ 5.

Першы нумар «Звезды» за 27 ліпеня 1917 года.

Асабліва моцнай была рэакцыя ў арміі. Зноў быў уведзен закон аб кары смерцю.

Контррэвалюцыя асабліва давала сябе адчуваць у Беларусі — прыфрантавой паласе. Тут дзейнічалі два цэнтры контррэвалюцыі — Стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага ў Магілеве і штаб Заходняга фронта ў Менску.

9 ліпеня 1917 года ў часцях Заходняга фронта быў распаўсюджан загад Керанскага, у якім прапаноўвалася наступнае:

**«...Віноўны ў публічным закліку да невыканання законных распараджэнняў улады караецца заключэннем у крэпасці на тэрмін не вышэй 3 гадоў або заключэннем у турму. Віноўны ў закліку ў часе вайны афіцэраў, салдат і іншых вайсковых чыноў да невыканання дзеючых пры новым дэмакратычным ладзе армій і згодных з імі распараджэнняў вайсковай улады караецца як за дзяржаўную здраду.**

**У згодзе з гэтай пастановай загадваю арыштаваць усіх асоб, якія вядуць агітацыю словам ці шляхам дру-**


МОЛОТЪ

Першы нумар «МОЛОТА» за 15 верасня 1917 года

* * *

ку з заклікам да гвалту, звяржэння часовага ўрада, дэзарганізацыі арміі і анархіі ў краіне, а таксама асоб, агітуючых супроць наступлення і заклікаючых да непадпарадкавання загадам начальства. Усіх арыштаваных неадкладна аддаць суду. У Петраградзе праводзяцца арышты большэвікоў. Прапаную неадкладна спыніць у дзеючай арміі выданне газет: «Правда», «Окопная правда», «Солдатская правда» і іншых аналагічных.

**А. КЕРЭНСКІ».**

У гэты адказнейшы момант, ва ўмовах усё ўзмацняючайся рэакцыі, большэвіцкі камітэт Менска прыступіў да выдання свайго штодзеннага органа — газеты **«Звезда».**

Тав. **А. Мяснікоў ***) — адзін з першых рэдактароў «Звезды» і заснавальнікаў першага большэвіцкага партыйнага цэнтра ў Беларусі, старшыня першага Менскага камітэта ў 1917 г. і галоўнакамандуючы Заходняга фронта ў першыя дні Окцябрскай рэволюцыі ў сваіх успамінах аб «Звезде» ярка характарызуе абстаноўку таго перыяда і велізарную ролю, якую адыграла газета ў барацьбе за падрыхтоўку Окцябра ў Беларусі.

«Пры ўмовах палітычнага жыцця краіны, — піша А. Мяснікоў, — у прыватнасці фронта і прыфрантавой паласы, у той час, калі буржуазна-згодніцкі блок душыў усё жывое, рабочае і комуністычнае, калі пасля 5 ліпеня большэвізм быў абвешчан строга забароненым пладом і большэвікі лічыліся па-за законам, нашай адзіна моцнай і дзейснай зброяй магло быць друкаванае слова, разнасімае па ўсіх велізарных прасторах крывавага поля і даліны слёз. Мы ведалі, што натрапім на вялікія перашкоды, што наша слова не будзе гучаць бесперапынна, але ўпэўненасць у тым, што няроўнамерна, з перарывамі кінутае зярно пападзе ўсё-ж на маючую патрэбу ў ім глебу — усведамленне гэта ўсё мацнела і памнажала нашу энергію».

«Звезда» пранікала ў масы рабочых і франтавых салдат і разносіла большэвіцкія лозунгі, мабілізуючы масы на барацьбу супроць эсэраў і меншавікоў — гэтых подлых згоднікаў з контррэволюцыйнымі кадэтамі, супроць контррэволюцыйнага Часовага ўрада, супроць закона аб кары смерцю, супроць ваеннага наступлення і т. д.

Сваімі баявымі лозунгамі «Звезда» пранікала ў акопы, у салдацкія казармы, у гаўптвахты і турмы да арыштаваных салдат, у рабочыя кварталы, у вёску. Аўтарытэт «Звезды» быстра ўзрастаў. Яна пачала выходзіць пры тыражы ў 3000 экземпляраў, а напярэдадні яе закрыцця яна ўжо мела падвоены тыраж (6000 экземпляраў).

У рэдакцыю паступалі кожны дзень пісьмы з просьбай высылаць газету на фронт. «Буржуазных газет — пісалі салдаты, — мы маем сотні. «Русским словом», «Ранним утром» і т. д. усе акопы засыпаны. Прышліце нам нашу «Звезду».

З'яўленне «Звезды» было вялікім святам для прыгнечаных мас працоўных. Салдаты і працоўныя масы збіралі сродкі ў «Жалезны фонд» для газеты. Пасылаючы ў рэдакцыю сабраныя сродкі, яны віталі большэвіцкую газету.

*) Тав. А. Мяснікоў загінуў пры аварыі самалёта ў красавіку 1925 г.

145 арыштаваных салдат з каланчоўскай гаўптвахты прыслалі сваё прывітанне:

«Прывітанне «Звезде» ад арыштаваных салдат. У чорную бурную ноч, у момант развіваючайся рэакцыі, калі чалавецтву патрэбен верны спадарожнік, вышла ты, «Звезда». Заззяла сваім бляскам, паказваючы шлях, куды павінна ісці чалавецтва. Трудны шлях твой, дарагая «Звезда», бо тваё святло адзінока сярод грознай пануючай рэакцыі.

Мы жадаем табе, дарагая «Звезда», рассеяць, разбіць гэту чорную ноч, і хутчэй вышла-б не адна «Звезда», каб не было гэтай чорнай, цяжкай рэакцыйнай ночы, каб ззяла ўсё неба ў зорках» («ЗВЕЗДА», № 3).

Такіх лісем паступала ў рэдакцыю мноства. Гэтыя пісьмы характарызуюць, як працоўныя масы, змучаныя за час грабежніцкай вайны, сустрэлі з'яўленне «Звезды», з якім інтарэсам яны яе чыталі. Гэтыя пісьмы маляўніча паказваюць, які вялікі ўплыў аказваў большэвіцкі друк на сваіх працоўных чытачоў. «Правда», «Окопная правда», «Звезда» насілі ў масы ідэі большэвізма, лозунгі нашай партыі, яны ўзнімалі іх на барацьбу супроць рэакцыі, супроць Часовага ўрада, супроць прадажнікаў—меншавікоў і эсэраў.

На фронце, у салдацкіх масах з кожным днём нарастала рэволюцыйная хваля, барацьба супроць рэакцыйнага афіцэрства і чорнасоценных армейскіх чыноў, супроць загадаў Часовага ўрада аб ваенным наступленні, аб кары смерцю. Большэвіцкія газеты пускалі глыбока свае карэнні.

Керэнскі закідвае камандванне фронтам загадамі аб узмацненні рэпрэсій, павелічэнні арыштаў і закрыцці газет:

«...Загадваю: 1) «Правда» — орган Цэнтральнага Камітэта і Пецербурскага камітэта РСДРП і «Окопная правда» — орган ваеннай арганізацыі пры Рыжскім камітэце с.-д. латышскага края на падставе... пастановы Часовага ўрада закрыць і 2) усім начальнікам і камісарам Часовага ўрада дзеючай арміі старанна сачыць за распаўсюджаннем у арміі пачасовых выданняў і, у


БУРЕВѢСТНИКЪ
Р. С.-Д. Р. П.
9 и 10 октября Минскій Комитетъ Р С-Д Р П. ... сборъ на соціалистическую литературу солдатамъ въ окопы

Першы нумар «Буревестника» за 8-ае кастрычніка 1917 года.

★ ★ ★

выпадку з'яўлення газет, заклікаючых да аднаго з дзеянняў, пералічаных у пастанове Часовага ўрада (непаслухмянства загадам і распараджэннем улад, агітацыя супроць наступлення і т. д.—Б. Ш.), уваходзіць да мяне з прапановай аб неадкладным закрыцці такавых органаў. Усім вайсковым камітэтам загадваю аказваць начальнікам і камісарам поўную садзейнасць. Ваенны і морскі міністр А. Керэнскі».

Але гэтыя загады разбіваліся аб хвалю ўсё ўзрастаючага рэволюцыйнага руху. Пасеянае большэвіцкае насенне давала добрыя рэволюцыйныя парасткі. Яно рыхтавала багаты ўраджай.

У «Звезду» паступаюць пастановы, прымаемыя на салдацкіх сходах супроць рэакцыйнага Часовага ўрада і яго загадаў.

«Мы, салдаты рухомай і рамонтнай майстэрні ў ліку каля 200 чал., выслухаўшы дакпад т. Х. О. аб увядзенні кары смерцю і адмаўленні дэрэформенай улады ваеннага начальства, вынеслі наступную рэзалюцыю:

Першым крокам вызваліўшагася народу было патрабаванне адмены кары смерцю і скасаванне палачнай дысцыплінарнай улады.

Цяпер-жа з націскам контррэвалюцыйнай буржуазіі гэты перажытак варварства ўводзіцца зноў супроць салдат, чацверты год страдаючых і знемагаючых пад гнётам уніжэння, голаду, холаду, абараняючы дзяржаву і заваяванні рэволюцыі...

... Мы рашучым чынам пратэстуем супроць увядзення кары смерцю і заклікаем усіх таварышоў стаць на абарону сваіх інтарэсаў».

Мноства салдацкіх пісем паступае ў адрас т. А. Мясьнікова з пытаннямі аб ліпеньскіх падзеях, з пратэстамі супроць арыштаў і судзілішч над рэволюцыйнымі салдатамі, супроць разгрома салдацкіх арганізацый і т. д.

Адказваючы праз «Звезду» на гэтыя пісьмы («Звезда» № 12), т. Мясьнікоў заканчвае сваё пісьмо наступнымі словамі:

**«Няхай вые бура контррэволюцыі, няхай раздаецца гіканне «таржаствуючай свінні» — буржуазіі, няхай шыпяць змеі рэакцыі, — гэта не надоўга. Скора наступіць для іх смерць. Нам патрэбна вытрыманасць, арганізаванасць і верна разлічаны націск. І калі падымецца багатыр рэволюцыі — рабочы, салдат і бядкейшы селянін — то як дым развеецца ўся мразь контррэволюцыі».**

«Звезда» публікуе артыкулы **Леніна** і **Сталіна**, пастановы VI з'езда партыі і «Маніфест Расійскай Соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі да ўсіх працоўных, да ўсіх рабочых, салдат і сялян Расіі».

Маніфест заклікае: «Рыхтуйцеся да новых баёў, нашы баявыя таварышы! Стойка, мужна і спакойна, не паддаючыся на правакацыю, накапляйце сілы, стройцеся ў баявыя калоны! Пад сцяг партыі, пролетарыі і салдаты! Пад наш сцяг, прыгнечаныя вёскі!..»

Уплыў «Звезды» ўзмацняецца з кожным днём. Аб гэтым красамоўна сведчаць шматлікія данясенні з розных частцей у штаб Заходняга фронту. Прыводзім вытрымкі з гэтых данясенняў:

«... Несвіж... 18 жніўня 1917 г. Настрой у войсках 2 арміі за мінулы тыдзень з 11 па 18 жніўня прадстаўляецца ў наступным выглядзе. У часцях 3-га Сібірскага корпуса наяўных змен у адносінах устойлівасці і боездольнасці няма. Настрой салдацкай масы спакойны, апрача 7 Туркестанскай дывізіі, дзе трэба адзначыць скрытае бражэнне, якое можна паставіць у сувязі са з'яўленнем у палках і ўстановах названай дывізіі большэвіцкай газеты «Звезда», якая прысылаецца кімсьці бясплатна ў вялікай колькасці».

Зусім зразумела, што такое дзеянне «Звезды» на салдацкія масы выклікала шалёную пагоню за ёю і праследванне яе распаўсюджвальнікаў. Рэакцыйнае камандаванне прыняло ўсе меры, каб закрыць «Звезду». У перыяд гарачай падрыхтоўкі да першай большэвіцкай канферэнцыі вобласці і фронту — 23 жніўня (па старому стылю) «Звезда» была закрыта, праіснаваўшы ледзь месяц.

«Звезду» закрылі, але дарэмнымі аказаліся ўсе надзеі Керэнскага і яго агентаў, што з закрыццём «Звезды» спыніцца большэвіцкая агітацыя і рэволюцыйны ўплыў на масы. У дзень адкрыцця першай Паўднёва-Заходняй канферэнцыі РСДРП (большэвікоў) — 15 верасня 1917 года замест закрытай «Звезды» выйшла большэвіцкая газета **«Молот».**

***

«Молот» у сваім перадавым у першым нумары намячае свае задачы: «Молот» —газета рабочых, салдацкіх і бяднейшых мас. Якавы яго мэты? «Молот» хоча стаць кавачом шчасця пролетарыята і вясковай беднаты. У чым яго шчасце? Яно ў рэволюцыі і соцыялізме.

«Молот» будзе асвятляць салдату, рабочаму і селяніну шляхі да рэволюцыі і соцыялізма. Іх ён будзе асвятляць з пункту погляду непрымірымай і паслядоўнай класавай палітыкі соцыялістычнай дэмакратыі. На сцягу «Молата» напісана: «вайна капіталу, бязлітасная барацьба з буржуазіяй!..»

«Молот» са сваімі баявымі лозунгамі становіцца папулярнай і любімай газетай рабочых, салдат і сялян. Яе тыраж быстра ўзрос да 10 тыс. экз.

«Молот» з усёй праматой выкрывае згоднікаў і абаронцаў, мабілізуе салдат, рабочых і сялян на рашучы бой су-

проць контррэвалюцыі. Кожны нумар «Молата» грамавым ударам абрушваўся на галавы контррэвалюцыйнага камандавання, на згодніцкія меншавіцка-эсэраўскія армейскія камітэты.

Наколькі рэвалюцыянізуюча дзейнічала газета «Молот» на салдацкія масы відаць хоць-бы са шматлікіх данясенняў, якія пасыпаліся з часцей у штаб фронту з панічным крыкам аб «разбуральнай» дзейнасці «Молота». Прывядзем адно з такіх данясенняў.

Палкоўнік Малявін у сваім аглядзе пісаў: «Рабочая газета «Молот», якая з'явілася ў сярэдзіне верасня, з'яўляецца, па яе ўласнаму выражэнню, пераемніцай закрытай па распараджэнню ваеннага міністра газеты «Звезда». Напрадак гэтай газеты ўльтра-бальшэвіцкі, яе лозунгамі з'яўляюцца: неадкладнае скапчэнне вайны, перадача ўсёй палітычнай і ваеннай улады пролетарыяту, неадкладная соцыялізацыя, да Устаноўчага сходу, зямлі і інвентару, бязлітасная вайна капіталу і буржуазіі. Гэта газета называе сябе органам РСДРП, сеючы недавер'е і класавую рознь, падбухторвае салдат супроць афіцэрства, вядзе шкодную антыдзяржаўную агітацыю, падрываючы аўтарытэт Часовага ўрада, у якім, па яе думцы, усе міністры — прыслужнікі буржуазіі і тайныя контррэволюцыянеры, якія вядуць вайну ва ўгоду саюзным і нашым капіталістам. Урад-жа ўвёў кару смерцю з мэтай забойства салдат, рабочых і сялян...».

**«Молот» не даваў пакою камандаванню.** Бальшэвіцкая агітацыя глыбока пускала свае карэнні. Пад уплывам гэтай агітацыі салдаты не павінаваліся афіцэрству, адмаўляліся ісці на пазіцыю і т. д.

Нядарма палкоўнік Малявін так многа «увагі» ўдзяляў аглядам і данясенням аб «разбураючай» дзейнасці «Молата». У сваім наступным аглядзе Малявін пісаў:

**«Па думцы камандзіра корпуса (гутарка ідзе аб першым Сібірскім корпусе. — Б. Ш.), боездольнасць войск нястрымана падае, а пяхота страціла дысцыпліну да ступені, блізкай да анархіі. Камітэты аўтарытэтам не карыстаюцца. БОЛЬШЭВІЦКАЯ АГІТАЦЫЯ І ДРУК, У ПРЫВАТНАСЦІ ГАЗЕТА «МОЛОТ», РАСПАЛЬВАЕ ВАРОЖАСЦЬ САЛДАТ У АДНОСІНАХ ДА АФІЦЭРАЎ».**

Камандуючы Заходнім фронтам генерал Балуеў адправіў рапарт на імя Керэнскага з патрабаваннем у тэрміновым парадку прыняць меры да закрыцця «Молата».

Рапарт генерал канчае наступнымі словамі.

«Прызнаючы характар дзейнасці газеты «Молот» у чыста ваенных адносінах безумоўна шкодным і які надзвычай разлагаюча дзейнічае на армію, хадайнічаю аб закрыцці вышэйназванай газеты, з рэквізіцыяй друкарні, друкуючай гэту газету».

Керэнскі не замарудзіў дзеянне. «Молот» закрылі на 16-м яго нумары. Але на змену «Молоту» прышоў **«Буревестник».** 8 кастрычніка вышаў першы нумар газеты «Буревестник».

Таварыш **Кнорын** — адзін з заспавальнікаў компартыі Беларусі ў 1917 г. і сакратар Цэнтральнага бюро КП(б)Б да 1923 г.—у сваёй кніжцы «1917 год у Беларусі і на Заходнім фронце» дае наступную характарыстыку дзейнасці «Буревестника».

«Буревестник», змяніўшы закрыты «Молот», адкрыта вяшчае буру, якая павінна знесці ўсё старое і стварыць зусім новыя формы жыцця. Гэта — перыяд, калі тав. **Ленін** публікуе свой славуты артыкул «Ці ўтрымаюць бальшавікі дзяржаўную ўладу» і адказвае на заданае пытанне пэўна і ясна: «Так, утрымаюць, калі возьмуць». Гэта час, калі **«Рабочий путь»,** пад імем якога скрываецца нелегальны орган РСДРП (большэвікоў) **«Правда»,** друкуе пісьмы Леніна аб паўстанні, час для якога, па яго думцы, ужо настаў. І «Буревестник», веснік надыходзячай рабоча-сялянскай улады перадрукоўвае гэтыя пісьмы, бо «Рабочий путь» даходзіць да Менска ў двух-трох экземплярах. «Буревестник» разносіць гэтыя пісьмы па фронту і прапагандуе ў самых шырокіх масах ідэю паўстання».

З дня ў дзень «Буревестник» разносіць у масы бальшэвіцкія лозунгі. Наступіў дзень 25 кастрычніка—дзень адкрыцця другога Ўсерасійскага з'езда советаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. У гэты дзень «Буревестник» —орган Менскага камітэта бальшэвікоў

выходзіць з лозунгамі: «нам трэба кончыць грабежніцкую вайну, прапанаваўшы дэмакратычны мір. Нам трэба адмяніць памешчыцкія правы на зямлю і перадаць без выкупу ўсю зямлю сялянскім камітэтам. Нам трэба знішчыць голад, перамагчы разруху і паставіць рабочы кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем. Нам трэба даць усім народам Расіі права свабоднага ўпарадкавання свайго жыцця. Але для таго, каб ажыццявіць усё гэта неабходна перш за ўсё вырваць уладу ў карнілаўцаў і перадаць яе Советам рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Таму наша першае патрабаванне: **«Уся ўлада Советам»**.

Спробы контррэволюцыі расправіцца з «Буревестником» ні да чаго не прывялі. «Буревестник», прадвяшчаўшы буру, пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі давёў сваю ролю да канца. 1-га лістапада 1917 г. у Менску ўся ўлада перайшла ў рукі Советаў, і ў той-жа дзень пачала зноў выходзіць **«Звезда»**.

У гэты дзень рэдакцыя заявіла сваім чытачам: «...Сёння мы варочаемся да сваёй старой, першапачатковай назвы, да нашай «Звезды». З яе мы пачалі сваю трудную работу ў Заходнім краі і на фронце і з ёю разам у гэтыя адказныя дні пойдзем да поўнай перамогі або загінем».

«Звезда» не загінула. Пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі яна нястомна вяла барацьбу супроць ворагаў дыктатуры пролетарыята, мабілізоўвала працоўныя масы на барацьбу супроць нямецкакайзераўскіх акупантаў, супроць белапалякаў і банд Булак-Балаховіча, супроць контррэволюцыі розных масцей. І цяпер «Звезда» згуртоўвае працоўныя масы вакол нашай партыі, нясе ў масы лозунгі нашай партыі і пад выпрабаваным кіраўніцтвам гэтай вялікай партыі Леніна — Сталіна, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, яе ЦК на чале з лепшым сталінцам т. **Гікало**—БССР з адсталай, цёмнай, забітай, прыгнечанай ускраіны пры царскім ладзе стала індустрыяльна-калгаснай, культурнай, квітнеючай, непарушнай ордэнаноснай совецкай соцыялістычнай рэспублікай—магутным фарпостам СССР на граніцы з капіталістычным Захадам.

# У ДЗЕНЬ ДРУКУ

## НАША БОЛЬШЭВІЦКАЕ ПРЫВІТАННЕ КОМУНІСТЫЧНАМУ ДРУКУ І РАБСЕЛЬКОРАМ КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІН

**Перад намі пачка нумароў газет брацкіх комуністычных партый, газет, кожная з якіх мае сваю слаўную баявую гісторыю.**

**Колькі раз забараняліся гэтыя газеты фашысцкімі ўрадамі, колькі раз арыштоўваліся іх рэдактары, разграмляліся іх памяшканні. Колькі рабкораў і распаўсюджвальнікаў гэтых газет кінута ў турмы.**

**Колькі раз фашысцкая зграя ў розных краінах заяўляла аб «поўным знішчэнні комуністычнага друку».**

**І ўсё-ж комуністычны друк у краінах капітала жыве і мацнее.**

**Вось «РОТЭ ФАНЭ» (ЦО компартыі Германіі). Ужо колькі часу крывавы фашысцкі ўрад дэклараваў аб знішчэнні «Ротэ Фанэ». Але, хоць і ва ўмовах глыбокага падполля, «Ротэ фанэ» выходзіць як і раней, арганізоўвае рабочы клас Германіі на барацьбу з фашызмам, за пролетарскую рэволюцыю.**

**Вось невялічкая на 8 старонках падпольная газета іспанскай компартыі «БАНДЭРА РОХО».**

**Яшчэ свежы ў памяці гераічныя баі астурыйскіх рабочых, іх барацьба за ўладу. Сёння лютуе ў Астурыі іспанскі фашызм. Горы трупаў, перапоўненыя турмы, пажарышчы разгромленых гарадоў і вёсак — так фашысцкая рэакцыя распраўляецца з героямі Астурыі. Схілы Пірынеяў напоены гарачаю крывёю.**

**Але рэволюцыя не разгромлена—комуністычная партыя атрымала моцнае баявое хрышчэнне. У падполлі выдаецца «БАНДЭРА РОХО»—баявы орган партыі. За адзіны фронт, супроць фашызма, супроць вайны, за вызваленне актыўных барацьбітоў астурыйскіх баёў, за далейшае ўма-**

цаванне сваіх радоў, за дыктатуру пралетарыята змагаецца падпольная «Бандэра росо».

Вось «СЕККІ»—ЦО компартыі Японіі. З кожным днём расце яе папулярнасць сярод працоўных мас Японіі. Сведкай гэтага—узросшы за апошні час амаль у два разы тыраж «Секкі».

У Італіі, у глыбокім падполлі выдаецца «УНІТА», у Аўстрыі «РОТЭ ФАНЭ». У падполлі выходзяць газеты компартый Польшчы, Літвы, Латвіі, Фінляндыі, Балгарыі, Румыніі.

«ЮМАНІТЭ»—ва Францыі, «ДЭЙЛІ УОРКЕР»—у Англіі, «АРБЕТЭР МІДНІНГЕН»—у Швецыі, «ДЭЙЛІ УОРКЕР» у Злучаных штатах Амерыкі, «КЕМПФЕР»—у Швейцарыі», «ДРАПО РУЖ»—у Бельгіі, «УОРКЕРС ВОЙС»—у Ірландыі, «ІНТЭРНАСІОНАЛ»—у Аргентыне, «Классе Опрарыо»—у Бразіліі, «СУД АФРЫКАН УОРКЕР» — у паўднёвай Афрыцы і сотні іншых комуністычных газет выходзяць у краінах капітала.

Гэтыя газеты маюць сваіх рабселькораў. Яны не атрымліваюць ганарару, яны не могуць карыстацца ні тэлеграфам, ні радыё для сувязі са сваімі газетамі. З урадавых устаноў для іх адкрыты толькі паліцыя і турмы.

Колькі іх замучана ў турмах, паліцэйскіх засценках Германіі, Італіі, Польшчы, Японіі і інш. краін.

Аднак, з кожным днём расце лік рабселькораў комуністычнага друку, расце і мацнее сувязь комуністычнага друку з масамі працоўных.

У дзень большэвіцкага друку—гарачае братэрскае прывітанне баявым барацьбітам за сусветную пролетарскую рэволюцыю—комуністычнаму друку капіталістычных краін і яго рабселькорам!

# „Друк комуністычнай партыі—гэта наш друк“

Бюро міжнароднай сувязі Беларускага камітэта савецкіх эсперантыстаў і рэдакцыя **«Большэвіцкага друку»** звярнуліся да некалькіх рабкораў за межамі з просьбай адказаць на тры пытанні: 1) якія газеты вы чытаеце, 2) што вам дала комуністычная газета і 3) чым і як вы дапамагаеце сваёй газеце.

Вось што гавораць атрыманыя адказы.

«Я чытаю шмат розных газет і комуністычных, і соцыял-дэмакратычных і буржуазных. Выпісваю і рэгулярна чытаю сваю газету **«Арбетэр-Міднінген»** — орган комуністычнай партыі. Буржуазныя і соцыял-дэмакратычныя газеты я чытаю для таго, каб **вывучаць ворага.** Чым я дапамагаю сваёй газеце? Усім і ўсяк. Я пішу ў яе заметкі аб жыцці рабочых нашага гарадка, я перакладаю з эсперанто найбольш цікавыя пісьмы, атрыманыя нашай рабочай групай эсперанто з розных краін, асабліва з СССР. Часамі, прачытаўшы ў буржуазных газетах хлусліваю заметку аб СССР, я дасылаю яе савецкім эсперантыстам і прашу іх фактамі выкрыць ворага. Адказы савецкіх таварышоў я змяшчаю ў сваёй газеце. Так самі архангельскія лесарубы па фактах свайго жыцця выкрылі хлусню буржуазных газет аб жудасным становішчы рабочых на лесараспрацоўках.

Так у дзесятках пісем савецкія эсперантысты — рабочыя, калгаснікі, сяляне-аднаасобнікі і служачыя з розных месц СССР выкрылі хлусню соцыял-фашысцкіх прадажных пісак аб голадзе ў СССР».

Так піша нам рабкор газеты «Арбетэр Міднінген» (Швецыя).

«Комуністычная газета выхоўвае мяне, бо яна перадае багаты вопыт большэвіцкай барацьбы. Газета натхняе мяне на барацьбу за Савецкую Швецыю. Яна паказвае і расказвае, чаго дабіліся рабочыя СССР, што верна ішлі за сваёй партыяй, за сваімі правадырамі — вялікімі Леніным і Сталіным» — так піша актыўная рабкорка не толькі шведскіх комуністычных газет, але і раду нашых газет — работніца швейніца **Доллі Густаўсон** з Савадалена (Швецыя).

«Я беспрацоўны вось ужо каля года, — піша стары англійскі рабочы-качагар **Вільям Бургес** з Лондана—і я маю шмат часу, але мала грошай. Шмат часу я аддаю чытанню розных газет. Калі я працаваў, я выпісваў

сваю **«Дэйлі Уоркер».** Зараз у публічных чытальнях я чытаю ўсе газеты. На соцыял-дэмакратычных газетах я бачу, як лоўка гэтыя «соцыялісты» граюць на руку буржуазіі, як яны штодзенна здраджваюць інтарэсам рабочых. Уласны мой лёс — гэтаму сведка. Я стары. Мне 50 год — узрост, калі ўжо нідзе не возьмуць на работу і калі чакаць лепшага пры капіталізме—дарэмная справа. Я вельмі шкадую, што мала дапамагаў распаўсюджанню сваёй газеты. 50 год — гэта даволі малады яшчэ ўзрост, але ў нас капіталізм так высмоктвае сокі, што я ўжо адчуваю сябе на парозе да смерці. Але я памру чытачом сваёй «Дэйлі Уоркер», членам сваёй комуністычнай партыі, верным сынам рабочага класа Англіі».

«Я, — піша агародны рабочы **К. Снайпер** з вёскі Прокуньё (Галандыя) — выпісваю толькі тры газеты: **«Маас Эхо»** (мясцовая газета компартыі Галандыі), **«Расія сёння»** (орган таварыства прыяцеляў СССР) і **«На пасту»** (орган інтэрнацыянала пролетарскіх эсперантыстаў). Комуністычная газета — мой спадарожнік, яна вучыць і вядзе да светлага жыцця. Свае газеты я даю чытаць другім, чытаю іх сваім суседзям, або расказваю ім, што я прачытаў—вось што я раблю для сваёй газеты».

**Людвіг Манцэль** — рабочы-цэментнічык з Францыі піша: «Я рэгулярна чытаю **«Юманітэ».** Яна паказала мне шлях да шчаслівага жыцця, бо раней я думаў, што гэтага шляху няма. СССР — стаў маім маяком, Савецкая Францыя — маёй мэтай. Вось чаму я люблю «Юманітэ». Яна выхавала з мяне большэвіка. Яна паказала мне, куды і як трэба ісці рабочаму класу. Наш абавязак — мацаваць адзіны фронт рабочых на барацьбу супроць фашызма, супроць новай вайны. «Юманітэ» ў гэтай справе адыгрывае вялікую ролю. Таму я з вялікай увагай чытаю кожны нумар **«Юманітэ»,** таму я перадаю яго змест жыхарам нашага рабочага двара. Я дапамагаю распаўсюджваць **«Юманітэ»** — пісаць яшчэ не набраўся храбрасці».

Пісьмы рабочых **Банта** (з Ротэрдама). **Пауль Гельдэна** (з Гельдэра), **Мааса** (з Амстэрдама), напісаныя на адной мове, гавораць адно.

«Буржуазія прабавала знішчыць наш комуністычны друк. Яна забараніла нашу баявую **«Трыбуну»** (орган ЦК комуністычнай партыі Галандыі). Але **«Трыбуна»** выходзіць, праўда, не такой як раней на фармату, але па зместу яшчэ больш баявой, больш рашучай. Яна кліча і арганізоўвае рабочых на новыя баі. Барыкады ў Амстэрдаме будуць яшчэ пабудаваны. Узняўшыся пролетарыят змяце з зямлі капіталізм. **«Трыбуна»** — наш баявы трыбун. Яна гаворыць нашай мовай. Мы знаходзім у ёй свае матэрыялы. **«Трыбуна»** — наш настаўнік, яна нас знаёміць з партыйным жыццём, яна дапамагае нам вывучаць вучэнне **Маркса-Леніна-Сталіна».**

«Разгромлена Астурыя, але полымя барацьбы гарыць у сэрцах рабочых. Компартыя Іспаніі жыва, жыве яе баявы орган **«Бандэра Рохо».** Я распаўсюджваю гэту газету, — піша комсамолец **Г. Л.** з Барселоны. Мы раскідаем яе ўночы па рабочых пасёлках. У **«Бандэры Рохо»** ёсць малодшы сын **«Хувентуд Рохо»** — газета комсамола. Я ёй дзякую за тое, што яна выхавала з мяне комсамольца, і хоць я ўжо сядзеў раз у карцэры за стачку, я ўсё роўна буду з яшчэ большай ахвотай працаваць у комсамоле».

«Кожны нумар комуністычнай газеты, — піша комсамолец **Х. Б.** з Барселоны, — гэта і ўрок, і дырэктыва. Ён вучыць, як трэба змагацца. Не дарма ўсюды рабкоры гавораць пра комуністычныя газеты так: «наша газета», «свая газета».

Ёсць яшчэ некалькі пісем. Усе яны паказваюць, якой вялікай пашанай і любоўю сярод рабочых карыстаецца комуністычны друк.

72 процанты пісем — гэта пісьмы тых, якія прыйшлі ў партыю праз актыўны ўдзел у комуністычным друку.

Друк брацкіх компартый — самая моцная зброя барацьбы за масы, зброя барацьбы з фашызмам, супроць вайны, за абарону СССР, за сусветную пролетарскую рэволюцыю.

Д. СНЕЖКА.




АБ ГАЗЕТНЫХ КАДРАХ

★★★★★

# ГУТАРКА ІДЗЕ АБ СУР'ЁЗНЫМ УМАЦАВАННІ ГАЗЕТНЫХ КАДРАЎ

Дзевяць тысяч друкаваных газет выходзіць у нашай краіне. Пераважная большасць іх створана ў гады першай пяцігодкі. Буйнай порасплю ўзнiклі газеты ў тысячах раённых цэнтраў, на будаўнiчых пляцоўках індустрыяльных гігантаў, у соўгасах і МТС, на шахтах, плацінах будучых электрастанцый, на сталёвых і водных магістралях.

Тысячы людзей былі пасланы партыяй і комсамолам у друк, — на-хаду ствараліся кадры газетных работнікаў. Яны навучаліся ў працэсе самой работы, гарачым словам бальшэвізма цэментуючы калектывы будаўнікоў новай соцыялістычнай гаспадаркі, новага жыцця, новай культуры. Гэтыя гады стварылі многіх энтузіястаў газетнай работы — жывых, ініцыятыўных творча-мыслячых людзей, дастойных стаяць ля самай моцнай, самай вострай зброі партыі, якою з'яўляецца большэвіцкі друк.

Але вось краіна перайшла ў новы, вышэйшы клас будаўніцтва соцыялізма. Рэзка змяніўся твар совецкіх рэспублік, значна ўскладніліся задачы партыйна-масавай работы, нязмерна ўзраслі культурнасць і патрэбнасці мільёнаў працоўных—чытачоў нашых газет. Развіццё совецкага дэмакратызма ўскладае на друк яшчэ больш важную і адказную ролю.

Трэба сказаць прама: значная частка друку не здавальняе новых патрабаванняў, якія прад'яўляюцца партыяй і чытачамі. Асноўная па колькасці група газет—раённыя і соўгасныя, усяго каля пяці тысяч,—часта дэманструе шэрыя, бледныя старонкі, ніяк не адпавядаючыя ўскладаемым на іх партыяй задачам. Нямала і кіруючых—краявых, абласных, рэспубліканскіх—газет пакідае жадаць лепшага ў сэнсе партыйнай страснасці, творчага размаху і літаратурнага майстэрства друкуемых матэрыялаў.

У чым адчуваюць зараз патрэбу, няхватку нашы газеты. Перш за ўсё і галоўным чынам у людзях—палітычна бездакорных і газетна кваліфікаваных работніках, любячых газету, разумеючых яе велізарнае значэнне прыводнага рамня ад партыі да мас. Між тым у апошні год—два новыя папаўненні прыцякаюць у друк слабымі ручайкамі—слабымі і колькасна і якасна.

Шырока прадуманага плана падрыхтоўкі газетных кадраў па сутнасці справы няма. Не створана яшчэ мінімальная колькасць падручнікаў і навучальных дапаможнікаў для газетных школ. Нават вышэйшыя газетныя навучальныя ўстановы—комуністычныя інстытуты журналістыкі (КІЖ)—далёка не апраўдваюць ускладзеных на іх надзей. Камплектуюцца яны людзьмі, часта не ўладаючымі ні дастатковай агульнаасветнай падрыхтоўкай, ні, што архінеабходна, схільнасцю да газетнай работы. Навучальныя планы перагружаны прадметамі, не маючымі прамых адносін да будучай дзейнасці студэнтаў. Яны адарваны ад жывога газетнага жыцця, ад багацейшага практычнага вопыта нават цэнтральных газет, якія знаходзяцца побач, у адным горадзе.

У выніку сумна-анекдатычныя факты —многія студэнты апошняга, трэцяга, курса Маскоўскага КІЖ пры нядаўняй праверцы не маглі адказаць на прасцейшыя пытанні: як называецца сталіца Румыніі, сталіца Нарвегіі, якія партыі існуюць у Англіі. Партком Беларускага інстытута журналістыкі нядаўна высвеціў, што з 17 трэцекурснікаў толькі 7 чыталі такі дакумент, як пастанова Ленінградскага гаркома партыі «Аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы». Няма чаго і гаварыць аб няведанні многімі тэхнікі газетнай работы і адсутнасці ў некато-

рых студэнтаў любві да газетнай дзейнасці. А гэтыя-ж таварышы праз 3—4 месяцы скончаць інстытут і па вопыту мінулага будуць пасланы рэдактарамі раённых і буйных заводскіх газет.

Існуюць у абласцях, краях газетныя школы; некаторыя абкомы партыі арганізавалі кароткатэрміновыя (3, 6 месяцаў) курсы. Але толькі нямногія з гэтых школ і курсаў працуюць нармальна, толькі нямногія дадуць раённаму, соўгаснаму і заводскаму друку па-сапраўднаму кваліфікаваныя кадры газетчыкаў-большэвікоў. Пакуль што і комвузы і курсы выпускаюць нямала браку. Пакуль што добрыя партыйна-вытрыманыя і газетна-ўмелыя работнікі нярэдка перакідваюцца раённымі партыйнымі камітэтамі на ўсякую іншую работу. Такіх фактаў нямала і ў Беларусі, і ў Азова-Чорнаморскім краі, і ў іншых рэспубліках і абласцях Саюза. Не ўсвядомлена да гэтага часу вельмі многімі партыйнымі камітэтамі роля друку, асабліва ў новых умовах. Не разумеюць дагэтуль многія партыйныя камітэты, што яны пажынаюць плады ўласных адносін да газет і кадраў друку.

Адсюль—слабае кіраўніцтва культпропаў абкомаў і крайкомаў наяўнымі кадрамі газетных работнікаў. Адсюль — худасочнасць цыркулярных дырэктыў сектароў друку крайкомаў нізавому друку і бясплодныя цыркуляра-артыкулы спецыяльных журналаў па пытаннях газетнай работы (а іх не так ужо мала, яны выходзяць у кожным краі). Адсюль —няўвага да гаспадарчых патрэб рэдакцый і бытавых патрэб газетчыкаў, часта працуючых (асабліва ў раёнах) у цяжкіх умовах.

Адсюль і магчымасць засмечвання многіх рэдакцый газет антыпартыйнымі і проста чужымі совецкаму друку элементамі. Толькі ў апошнія месяцы, калі партыя заклікала да ўзмацнення класавай пільнасці, выяўлены былі дзесяткі такіх людзей—палітычна нявытрыманых, апартуністычна настроеных і нават актыўных контррэволюцыянераў-трацкістаў і іншых, скарыстаўшых газеты як сваю трыбуну, як трыбуну класавага ворага. І гэта не толькі ў раёнах, але дзе-ні-дзе і ў краявых газетах (напрыклад, у азова-чорнаморскім «Молоте»).

Асноўная маса цяперашніх работнікаў друку—палітычна чэсныя людзі, якія гараць на рабоце, шчыра жадаюць рабіць газету яркай, цікавай, партыйна-вострай. Многім з іх не хапае ўмення, вопыта, газетнай вывучкі. Але яны ў значнай меры безнадзорны, не атрымліваюць належнай штодзеннай дапамогі і кіраўніцтва ні ад гарадскіх і раённых камітэтаў партыі, ні зверху—ад культпропаў крайкомаў і абкомаў.

Становішча з газетнымі кадрамі і кіраўніцтвам імі патрабуе значных перамен,—гэта павінны зразумець раённыя і абласныя партыйныя арганізацыі.

Гутарка ідзе не аб поўмерах, не аб звычайных да гэтага часу культпропаўскіх паліятывах. Гутарка ідзе аб сур'ёзным умацаванні кадраў друку лепшымі партыйнымі работнікамі, маючымі схільнасць да газетнай дзейнасці.

Гутарка ідзе аб праверцы і перападрыхтоўцы ў бліжэйшыя год—два не адной тысячы цяперашніх газетных работнікаў (часткова, зразумела, метадамі завочнага навучання).

Гутарка ідзе аб вылучэнні ў друк і сур'ёзным навучанні вялікага ліку рабочых і сялянскіх карэспандэнтаў, прайшоўшых рабсělькораўскую школу сувязі з газетай.

Гутарка ідзе аб стварэнні сапраўднага, жывога, штодзеннага кіраўніцтва крайкомаў і абкомаў раённым, заводскім і соўгасным друкам.

Гутарка ідзе аб ажыўленні журналаў і бюлетэняў культпропаў, закліка<br>ных выхоўваць газетных работнікаў і перадаваць каштоўны вопыт лепшых газет.

Гутарка ідзе аб спыненні разбазарвання газетных кадраў, перакідвання іх райкомамі (часамі і крайкомамі) на іншую работу.

Гутарка ідзе, значыцца, аб тым, каб перанавучыць і нанава стварыць шматтысячныя кадры газетных работнікаў, кадры, здольныя пад штодзенным кіраўніцтвам партыйных арганізацый перавесці ўсе нашы газеты ў новы, вышэйшы клас, адпавядаючы новым патрабаванням партыі, патрабаванням эпохі росквіту совецкага дэмакратызма.

**(Перадавы артыкул «Праўды»).**

М. САНАЛОЎСКІ

# СПРАВАМІ АДКАЗВАЮЦЬ НА ПЕРАДАВЫ АРТЫКУЛ „ПРАВДЫ“

Толькі каля года назад **«Большэвік Барысаўшчыны»** пераведзен на штодзённы выпуск і павялічаны фармат. За гэты час газета дабілася значных поспехаў. Палепшыўся змест і афармленне матэрыялаў. Газета лепш стала працаваць з рабселькорамі.



Сатырычная насценгазета калектыва работнікаў рэдакцыі „Большэвіка Барысаўшчыны“.

У рэдакцыі «Большэвіка Барысаўшчыны» працуе 14 работнікаў. з іх 6 камуністаў і 7 комсамольцаў. 8 чалавек працуюць у рэдакцыі ўжо даўно— ад паўтара да 4 год.

Усе работнікі газеты ахоплены тым ці іншым відам вучобы. Адказны рэдактар тав. Мятла вучыцца на завочным сектары курсаў марксізма-ленінізма (рэдактарскае аддзяленне) пры ЦК ВКП(б). 4 работнікі вучацца ў вячэрнім Комвузе. 2—у завочным КІЖ'ы, трое чатыры разы ў месяц праходзяць семінар прапагандыстаў. частка наведвае семінар райпартактыва.

Пры рэдакцыі працуе фотагурток, які наведвае 7 чалавек. Тав. Мятла, Сцефановіч. Горфінкель робяць ужо нядрэнныя фотаздымкі. Досыць часта для клішэ ў газеце даюцца здымкі, зробленыя работнікамі рэдакцыі.

Партыйная і комсамольская групы рэдакцыі правяраюць вучобу работнікаў. Нядаўна комсамольская група заслухала справаздачу т. Кусцерава. Ён адзін у рэдакцыі дрэнна вучыцца. Яму далі канкрэтныя ўказанні, далі заданне ў бліжэйшы час прачытаць з мастацкай літаратуры «Я люблю» Аўдзеенка, «Человек меняет кожу» Бруно Ясенскага і інш.

Вялікай тэхнічнай вучобай для работнікаў рэдакцыі з'яўляюцца штодзенныя рэдакцыйныя нарады, на якіх абмяркоўваецца вышаўшы нумар газеты. На гэтых нарадах часта прымаюць удзел рэдактары шматтыражак. Нарады праходзяць жыва, усебакова разбіраецца кожная карэспандэнцыя, яе палітычная завостранасць, стыль, граматнасць.

— Мы не чакаем, пакуль на нашы недахопы ўкажуць «Большэвіцкі друк» і «Звязда»,—кажа т. Мятла,—а стараемся самі на аснове разгортвання шырокай самакрытыкі выяўляць і выпраўляць свае недахопы.

На рэдакцыйных нарадах перыядычна абмяркоўваецца, як асвятляе газета тое ці іншае пытанне. Так было абмеркавана. як за месяц асвятлялася пытанне барацьбы за здаровага каня. 6 раз рабіліся такія агляды і па іншых пытаннях.

Многа дапамагае паляпшэнню якасці змяшчаемых матэрыялаў і павышэнню кваліфікацыі работнікаў рэдакцыі выпушчаемая ў рэдакцыі насценгазета **«За аператыўнасць і якасць».** Насценгазета ўзнімае пытанні планавай работы аддзелаў, культуры работы ў рэдакцыі і т. д. Асаблівы ўпор робіць газета на барацьбу за якасць матэрыялаў «Боль-

шэвіка Барысаўшчыны», выкрывае аматараў здаваць матэрыял па прынцыпу «абы з рук збыць», змяшчае ўзорчыкі дрэнных матэрыялаў, дае тлумачэнні да іх. Напрыклад:

**«Да канца года засталося не многа, а калгасы «Бядняцкая перамога», «Чырвоны лужок», «Чырвоны сейбіт» і ім падобныя не спяшаюцца».**

Гэта «шапка» дана работнікам промсектара т. Райнесам к падборцы аб лесазагатоўках і вывазках і забракавана.

Ад рэдакцыі насценгазеты даецца да яе такая заўвага:

**«Калі калгасы не спяшаюцца, то невядома куды спяшаўся тав. Райнес, даючы такую шапку».**

Работнік сельскагаспадарчага сектара т. Кугель у карэспандэнцыі піша:

**«Аднаасобнікі выканалі толькі 84,7 проц. Адсюль відавочна, што асноўнае недавыкананне плана ідзе за лік аднаасобнага сектара. Відавочна, што бульбапастаўкі зацягнуліся. Далейшая зацяжка нецярпіма».**

Насценгазета змяшчае гэту вытрымку з такой прыпіскай:

**«Відавочна, што Кугель рыхтаваў гэты матэрыял не занадта прыбягаючы к дапамозе сваёй галавы, відавочна, што трэба не ісці к машынцы і дыктаваць ненапісаны матэрыял, адсюль відавочна, што так далей матэрыял падаваць нельга. Відавочна, што «далейшая зацяжка нецярпіма». Таксама відавочна, што злоўжываць словам, «відавочна» не рэкамендуецца».**

Падобныя заметкі, якія суправаджаюцца трапнымі карыкатурамі, адыгрываюць вялікую ролю ў паляпшэнні якасці матэрыялаў «Бальшэвіка Барысаўшчыны», у выхаванні работнікаў. І трэба сказаць, што работнікі рэдакцыі растуць на рабоце.

«Бальшэвік Барысаўшчыны» аказвае значную дапамогу фабрычна-заводскім шматтыражкам. У рэдакцыю прыходзяць рэдактары шматтыражак за парадамі. Рэдактар шматтыражкі «Чырвоны бярэзінец» т. Мішкін сістэматычна наведвае рэдакцыйныя нарады, бо яны яму дапамагаюць у рабоце.

На камбінаце «Комінтэрн» газета арганізавала семінары рабкораў і рэдактароў насценгазет, якія працуюць на беларускай і яўрэйскай мовах. Рабочы з 35-гадовым рабочым стажам тав. Каган ніколі не пісаў у газеты. Прайшоўшы семінар на яўрэйскай мове, ён стаў актыўным рабкорам.

Пры дапамозе «Бальшэвіка Барысаўшчыны» рабкораўскія семінары былі арганізаваны і на другіх фабрыках і заводах. Гэтыя семінары нядрэнна працавалі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Але за апошні час на многіх прадпрыемствах семінары спынілі работу. Гэта трэба неадкладна выправіць, дабіўшыся, каб семінары працавалі на ўсіх прадпрыемствах.

Перыядычна склікае рэдакцыя спецыялізаваныя нарады рэдактароў насценгазет. Так былі праведзены нарады рэдактароў школьных насценгазет, насценгазет кааператыўных крам, саматужных арцелей і т. д. На гэтых нарадах робяцца вусныя агляды газет, паказваюцца лепшыя і дрэнныя ўзоры работы, паказваецца, як трэба рабіць газету.

У большасці выпадкаў, калі работнікі рэдакцыі бываюць на заводах і ў калгасах, яны звязваюцца з рабселькорамі, арганізоўваюць сумесна з імі матэрыял, даюць ім заданне і паказваюць, як яго трэба выконваць.

Многія газеты, узнімаючы якое-небудзь пытанне, спачатку друкуюць першы матэрыял, а потым праводзяць вакол яго работу. «Бальшэвік Барысаўшчыны», калі намячае ўзняць якое-небудзь пытанне на сваіх старонках, спачатку звязваецца з рабселькорамі, растлумачвае, як рэдакцыя думае ажыццявіць тое ці іншае мерапрыемства, а потым ужо асвятляе яго. Таму рэйды і іншыя мерапрыемствы праходзяць масава.



**Насценгазета калектыва работнікаў рэдакцыі «Бальшэвіка Барысаўшчыны».**

Рэдакцыя «Большэвіка Барысаўшчыны», атрымлівае ў сярэднім у дзень 45—50 карэспандэнцый, а часта і 70—85 карэспандэнцый у дзень.

Значна палепшылася дзейснасць матэрыялаў газеты. За апошні час па сігналах газеты 28 чалавек адданы пад суд, 24 чалавекі атрымалі розныя спаганяньні.

Вялікім недахопам у рабоце «Большэвіка Барысаўшчыны» з'яўляецца тое, што рэдакцыя дрэнна арганізавала вучобу селькораў. Гэта работа разгортваецца толькі зараз.

Нядаўна было склікана 20 селькораў-актывістаў. Ім раздалі заданні па завочных курсах «Крестьянской газеты». Некаторым селькорам разаслалі гэтыя заданні па пошце. Але ні аднаго селькора рэдакцыя не выклікала для прыёму прапрацаваных заданняў, для кансультацыі.

***

25 красавіка адбылася нарада работнікаў рэдакцыі «Большэвіка Барысаўшчыны», на якой абмяркоўваліся мерапрыемствы па ажыццяўленню перадавога артыкула «Праўды»—«Гутарка цэ аб сур'ёзным умацаванні газетных кадраў».

Нарада праходзіла ў атмасферы здаровай крытыкі і самакрытыкі.

Падрыхтаваць з актыва рабселькораў моцны рэзерв газетных работнікаў—такую задачу паставілі работнікі рэдакцыі на гэтай нарадзе. Некаторая работа ў гэтай галіне ўжо праведзена.

Вылучана з лепшых рабселькораў 18 соцнамеснікаў—па-заштатных інструктараў газеты. Намечана перыядычна на 2—3 дні выклікаць іх для работы ў рэдакцыю. Рэдакцыя паставіла перад РК КП(б)Б пытанне аб арганізацыі пры рэдакцыі габінета друку.

Намечан рад мерапрыемстваў па наладжанню вучобы рабселькораў і дапамогі нізавому друку. Два селькоры вылучаюцца зараз у рэдакцыю на пастаянную работу.

З кадрамі работнікаў фабрычна-заводскіх шматтыражак у Барысаве не зусім добра. Райком КП(б)Б мала яшчэ займаецца падрыхтоўкай гэтых кадраў. Недапушчальна, калі партыйны орган рэдагуецца беспартыйнымі. А ў Барысаве такія з'явы маюць месца. Так газету шклозавода «Гута» рэдагуе комсамолец, комсамолец рэдагуе і газету камбіната «Комінтэрн».

Прычына: няма кадраў,—так заяўляюць у райкоме і ў рэдакцыі.

Партыйныя кадры газетных работнікаў павінны быць створаны. За гэту справу з усёй сур'ёзнасцю павінен узяцца Барысаўскі РК КП(б)Б.

**Юр. БЕЛЬКО**

# КАЛІ Ў РЭДАКЦЫІ ПРЫТУПЛЕНА КЛАСАВАЯ ПІЛЬНАСЦЬ

Месяцаў тры назад работнікі рэдакцыі **бярэзінскай** раённай газеты **«Сцяг Леніна»** былі здзіўлены нечаканай навіной: сакратар рэдакцыі комуніст **Буры** — аднаасобнік.

У 1933 годзе Буры вучыўся ў Магілеўскім газетным тэхнікуме. Там-жа праходзіў і партыйную чыстку, залвіўшы па чыстцы, што сям'я яго знаходзіцца ў калгасе «Чырвонаармеец» Бярэзінскага раёна. Два гады Буры ашукваў партыю і толькі выпадкова, заехаўшы ў калгас «Чырвонаармеец», намеснік сакратара райкома партыі тав. **Аднарогаў** высветліў сапраўднае становішча справы.

Бурага выклікалі ў райком, пажурылі крыху і прапанавалі ўступіць у калгас. Тое-ж самае зрабіла і партыйная група рэдакцыі. Праз некалькі тыдняў пасля гэтага Буры разам са сваёй сям'ёй і сям'ёй бацькі (сем'і жывуць разам) уступіў у калгас. Ні райком партыі, ні парттрупа рэдакцыі не палічылі патрэбным паставіць пытанне аб прыцягненні Бурага да адказнасці за ашукванне партыі.

Некалькі дадатковых фактаў дапаўняюць характарыстыку Бурага, як комуніста. Чалавек ужо каля двух гадоў працуе ў рэдакцыі, але жыве за восем кілометраў ад раённага цэнтра ў сям'і

свайго бацькі. Гадзін у 11 раніцы ён прыходзіць з дому, гадзін пяць пасядзіць за рэдакцыйным сталом і зноў накіроўваецца ў дарогу. Работа ў рэдакцыі для яго з'яўляецца пабочным заробткам к гаспадарцы.

Буры з'яўляецца старшынёй раённага совета саюза ваяўнічых бязбожнікаў. І толькі нядаўна выявілі, што ў хаце ў старшыні саюза бязбожнікаў... вісяць абразы.

— Што-ж рабіць, — апраўдваўся Буры, — бацька не хоча здымаць абразы.

Над сабой Буры зусім не працуе. Па сканчэнні тэхнікума не прачытаў ні адной сур'ёзнай кніжкі. З газет чытае толькі адну — «Калгаснік Беларусі».

Акрамя Бурага ў рэдакцыі працуюць яшчэ два камуністы — рэдактар тав. **Булай,** намеснік рэдактара тав. **Лескавец** і комсамолец тав. **Бандарэнка.**

Тав. Булай у 1933 годзе скончыў два курсы газетнага аддзялення Комвуза. Працуючы рэдактарам газеты, ён не спыняе работы над сабой. Кіруе партыйнай школай і займаецца ў завочным КІЖ'ы. Многа чытае мастацкай літаратуры.

Іначш абстаіць справа з тав. Лескаўцом. Справа ў тым, што да пачатку вясны гэтага года ён быў пастаянным упаўнаважаным райкома партыі. Па яго заяве за два гады работы ў раёне ён не больш 3-4 месяцаў працаваў па заданнях рэдакцыі, астатні час працаваў у розных сельсоветах раёна па заданнях райкома. Тав. Лескавец таксама лічыцца завочнікам КІЖ'а, але заданні выконвае неакуратна. Набыў многа партыйнай літаратуры, мае творы Леніна, Маркса. Цяпер, калі новае кіраўніцтва райкома партыі ўжо не скарыстоўвае работнікаў рэдакцыі ў якасці пастаянных упаўнаважаных, тав. Лескавец мяркуе пачаць сістэматычную работу над сабой.

Трэба асобна спыніцца на загадчыку сельскагаспадарчым аддзелам рэдакцыі — комсамольцу тав. Бандарэнка. Гэта энергічны і растучы работнік. Ён ужо год вучыцца ў завочным комвузе. Самым акуратным чынам прапрацоўвае заданні. На пяць-шэсць дзён у месяц усе завочнікі комвуза збіраюцца ў раён для здачы заданняў спецыяльна прыяджаючаму з Комвуза таварышу. Тав. Бандарэнка добра ўсвоіў увесь курс гісторыі партыі па падручніку Н. Папова і цяпер вывучае палітэканомію.

Аднак, трэба адзначыць некаторае адставанне агульнага развіцця тав. Бандарэнка. Тут мае адбітак тое, што ён мала чытае мастацкай літаратуры, не вывучае геаграфіі, што асабліва неабходна для газетнага работніка.

Такава кароткая характарыстыка асноўных работнікаў бярэзінскай газеты. Як ужо ўпаміналася, у рэдакцыі ёсць партыйная група. Партгрупа амаль не займалася ўнутрыпартыйнымі пытаннямі, палітыка-выхаваўчай работай з комуністамі і комсамольцамі — работнікамі рэдакцыі. Толькі гэтым можна тлумачыць той факт, што комуніст Буры два гады лічыўся калгаснікам, будучы ў сапраўднасці аднаасобнікам.

Партыйная група пры бярэзінскай газеце ўпусціла і пытанні вучобы работнікаў рэдакцыі. Таварышы нават не падумалі аб тым, каб арганізаваць калектыўнае вывучэнне пытанняў газетнай работы. Між тым цяпер усе магчымасці для гэтага ёсць. Рэдакцыя рэгулярна атрымлівае па падпісцы каштоўныя выданні маскоўскага КІЖ'а. Ужо атрыман падручнік «Рэдагаванне і масавая работа газеты», зборнік агляданаў, змешчаных у «Правде». Рэгулярна атрымліваюцца таксама журналы «Большевистская печать», «Районная и политотдельская печать» і інш. Літаратуры хапае. Райком партыі цяпер не скарыстоўвае работнікаў рэдакцыі на сваіх даручэннях. Так што ёсць поўная магчымасць хоць-бы адзін дзень у пяцідзнеўку прысвячаць вучобе.

Трэба спыніцца на рабоце газеты «Сцяг Леніна» з рабселькорамі. Ці ведае рэдакцыя сваіх рабселькораў? Калі падыходзіць фармальна, можа скласціся ўражанне, што сапраўды ведае. На справе-ж карціна другая.

У рэдакцыі «Сцяг Леніна» лічыцца больш 300 селькораў. Як складаецца гэта лічба? У рэдакцыю паступае пісьмо, аўтар якога просіць залічыць яго селькорам. Яму пасылаецца анкета. Праз некаторы час анкета прыбывае ў рэдакцыю запоўненай і лік селькораў павялічваецца на адзінку.

Анкеты акуратна складзены, падшыты. Аднак, ніхто іх не чытае, не вывучае. У рэдакцыі ўстанавілася думка, калі ёсць анкета, значыць усё ў парадку.

Але хіба-ж не ясна, што класавы вораг не напіша ў анкеце, што ён класавы вораг, а пастараецца падрабіцца пад совецкага чалавека? Хіба не ясна, што **кожнага** селькора рэдакцыя павінна **праверыць, высветліць яго твар?** Але гэтая простая ісціна аказалася тайнаю за сямю пячаткамі для комуністаў з бярэзінскай рэдакцыі.

Нават самае павярхоўнае вывучэнне анкет прымусіла-б работнікаў рэдакцыі прызадумацца. Вось, напрыклад, анкетны адказ селькора **Багамякі** Міколы на пытанне аб соцыяльным паходжанні: **«Ракей бацькі працавалі на зямлі, цяпер таксама працуюць на зямлі».** Гэтага адказу аб соцыяльным паходжанні для рэдакцыі «Сцяга Леніна» даволі для таго, каб залічыць Багамяка селькорам.

Толькі ў апошні час рэдакцыя пачала часткова правяраць склад сваіх селькораў. Адразу выявіліся варожыя элементы. Актыўная «селькорка» Амілія **Аніневіч** аказалася ярым ворагам калгасаў. «Селькор» **Кедзіч** з калгаса «Чырвоны бераг» аказаўся сынам жандара.

Гэтыя факты не паслужылі ўрокам для рэдакцыі бярэзінскай газеты.

Да апошніх дзён актыўным селькорам лічыўся **Ржэвуцкі** Стась з калгаса «Чырвонаармеец». Два браты Ржэвуцкага прымалі ўдзел у белапольскай акупацыі і ўцяклі ў Польшчу. Трэці брат асуджан за антысовецкую дзейнасць. У калгасе Ржэвуцкі найгоршы гультай і прагульшчык, за мінулы год выпрацаваў... 100 працадзён.

Усе гэтыя факты былі даўно вядомы работнікам рэдакцыі, але ніхто не надумаў аб тым, каб выкрыць Ржэвуцкага і выкінуць яго з радоў селькораў.

Таксама ўжо колькі часу як паступіў кампраметуючы матэрыял на **Рунца** Пятра, які таксама лічыцца актыўным селькорам. Рэдакцыя нічога не рабіці для таго, каб гэты матэрыял расследаваць і высвятліць сапраўдны твар Рунца.

Гэта гаворыць аб прытупленні класавай пільнасці работнікаў бярэзінскай раённай газеты.

Да гэтага трэба дадаць, што газета не вядзе абсалютна ніякай выхаваўчай работы са сваімі рабселькорамі, з рэдактарамі насценгазет. На працягу мінулага і ў пачатку гэтага года ў раёне не праводзіліся курсы рэдактароў насценгазет. Завочную вучобу рэдактароў рэдакцыя таксама не арганізавала. На старонках самой газеты амаль зусім не друкуюцца матэрыялы аб рабоце насценгазет і селькораў.

Як магло здарыцца ўсё гэта ў газеце, прычым у такой, якая мае трох комуністаў? Вялікая віна кладзецца на Бярэзінскі райком партыі, які агідна кіраваў сваёй газетай. Былы сакратар райкома т. **Кільбін** успамінаў аб існаванні газеты толькі тады, калі трэба было **пасланць комуністаў рэдакцыі на раён.**

Характэрны наступны факт абураючых адносін былога раённага кіраўніцтва да газеты. Калі трэба было падшукаць для райземаддзела памяшканне, то адразу ўхапіліся за рэдакцыю. Рэдакцыя мела добры, прасторны будынак. Рашылі будынак рэдакцыі аддаць райза, а рэдакцыю і друкарню ўсялілі ў адзін пакой. Так і змяшчаліся ў адным пакоі рэдакцыя і друкарня цэлых два месяцы. Ніякія просьбы работнікаў рэдакцыі не прымаліся ў разлік работнікамі райкома і толькі, калі намеснік рэдактара тав. Лескавец заявіў, што будзе скардзіцца ў ЦК КП(б)Б, толькі тады — пасля двух месяцаў здзекаў — рэдакцыі далі дадатковае памяшканне.

Ці трэба гаварыць пасля гэтага аб тым, што ніякага кіраўніцтва газетай з боку райкома партыі не было?

Цяпер, у сувязі з прыездам новага сакратара райкома тав. **Сосінава,** становішча, нібы, крыху паляпшаецца. Сакратар райкома цікавіцца работай газеты. Нядаўна бюро райкома заслухала паведамленне рэдактара аб мерапрыемствах, якія намячае рэдакцыя ў сувязі з пастановай ленінградскага гаркома ВКП(б).

Райком таксама прыняў меры да паляпшэння рэагавання на заметкі рабселькораў.

Гэтага, аднак, яшчэ недастаткова. Бярэзінскі райком партыі павінен глыбей заняцца работай сваёй газеты, комуністамі, якія ў ёй працуюць і ў першую чаргу трэба заняцца работай газеты з рабселькорамі.

**П. РАБІНОВІЧ**

# НАЛАДЗІЛІ СІСТЭМАТЫЧНУЮ ВУЧОБУ РЭДАКТАРОЎ НАСЦЕННЫХ ГАЗЕТ

Арганізацыяй вучобы нашых селькораў і рэдактароў насценгазет мы пачалі займацца даўно. У газеце друкавалі куток рабселькора, змяшчалі артыкулы аб тым, як арганізаваць работу насценгазеты, паказвалі лепшыя і горшыя насценгазеты.

Але ў самым пачатку гэтай работы мы ўбачылі, што гэтага вельмі і вельмі мала. Запатрабаванні рэдактароў насценгазет надта вялікія. Рэдактары патрабуюць сістэматычнай глыбокай вучобы.

На дапамогу нам прышла **«Крестьянская газета»** сваімі завочнымі курсамі рэдактароў насценгазет. Мы рашылі, што рассылка рэдактарам заданняў «Крестьянскай газеты» без папярэдняй кансультацыі не дасць вялікага эфекту, бо нашы рэдактары былі вельмі мала падрыхтаваны для таго, каб самастойна прапрацоўваць гэтыя заданні. Таму ў сярэдзіне лютага мы склікалі ў раён на кансультацыю ўсіх завочнікаў. Пяць дзён кансультацыі далі вельмі многае. Рэдактары насценгазет пераканаліся, што ім патрэбна многа вучыцца, убачылі, якія вялікія патрабаванні прад'яўляюцца рэдактарам насценгазет і як мала яны самі падрыхтаваны.

Спачатку мы стварылі групу завочнікаў з 48 рэдактароў. Рэдактары з ахвотай узяліся за вучобу.

У праграму кансультацыі-семінара мы ўвялі прапрацоўку рашэнняў VII усесаюзнага і XI усебеларускага з'ездаў саветаў, прапрацоўку матэрыялаў аб контррэвалюцыйнай зіноўеўска - трацкісцкай апазіцыі, беларускую мову і пытанні афармлення газеты. Пытанні афармлення газеты вялі два кіраўнікі. Адзін прапрацоўваў матэрыял па праграме «Крестьянской газеты», другі практычна вучыў рэдактароў, як прымяніць на справе атрыманыя веды.

12 гадзін адвялі на практычную работу над тым, як пісаць і апрацоўваць допісы ў насценгазеце. Тут выявіліся ўсе недахопы нашых завочнікаў. Вельмі мала завочнікаў маглі больш-менш граматна напісаць заметку. Большасць рэдактароў пісалі доўгія, блытаныя і агульныя заметкі, а некаторыя з-за адсутнасці элементарнай граматнасці нават дапусцілі ў заметках грубыя палітычныя памылкі.

За час кансультацыі завочнікі напісалі кожны па 7 допісаў. Усе допісы ўважліва праглядаліся кансультантамі, завочнікам даваліся падрабязныя ўказанні на недахопы допісаў, растлумачваліся памылкі. Гэта дало добрыя рэзультаты. Допісы, напісаныя завочнікамі ў апошнія дні семінара, рэзка адрозніваліся ад першых допісаў, іх ужо без асаблівай апрацоўкі можна было здаваць у друк.

Новым было для завочнікаў і пытанне аб тэматыцы насценгазет. Боль-



Рэдактар насценгазеты калгаса імя Сталіна, завочніца.



Тав. Марголін, рэдактар насценгазеты калгаса імя Молатава.



Рэдактар насценгазеты калгаса імя Варашылава, завочнік.

шасць рэдактароў прывыклі пісаць у газету толькі аб недахопах, добрыя-ж бакі работы яны ўпускалі. Таму на кансультацыі мы шэсць гадзін адвялі растлумачэнню таго, як у насценгазеце паказваць лепшыя ўзоры работы, лепшых ударнікаў. Першыя заметкі завочнікаў аб дадатных фактах таксама былі няўдалыя. У лепшым выпадку завочнікі пісалі аб агульных дасягненнях соўгаса ці калгаса, асобных ударнікаў, але яны не паказвалі шляхоў да гэтых дасягненняў. Мы і тут правялі вялікую работу па растлумачэнню завочнікам канкрэтных недахопаў іх допісаў. У рэзультаце апошнія допісы завочнікаў на тэму паказу лепшых узораў работы былі напісаны добра і мы амаль без змен скарысталі іх у раённай газеце.

З вялікай цікавасцю завочнікі прапрацавалі пытанне аб формах апаратыўна-масавай работы насценгазет. Тут для рэдактароў было шмат вельмі цікавага, новага.

На гэтай-жа кансультацыі было прапрацавана першае заданне па беларускай мове. Завочнікі набылі навыкі самастойнай работы над кнігай. Калі мы гэтага дабіліся, мы далі завочнікам новыя заданні ўжо для самастойнай прапрацоўкі.

Раз'ехаўшыся па калгасах, завочнікі пачалі працаваць па-новаму. Прыкметна сталі паляпшацца і рэдагуемыя імі насценгазеты. Рэдактары пачалі арганізоўваць актыў вакол насценгазет і дабівацца рэагавання на кожную змешчаную заметку.

Вось прыклад. Рэдактар насценгазеты калгаса імя Молатава завочнік т. **Марголін** змясціў у калгаснай насценгазеце допіс аб бяздзейнасці рэвізійнай камісіі. Праўленне калгаса на допіс не рэагавала. Тав. Марголін напісаў яшчэ раз у насценгазету. І гэта не дапамагло. Тады ён звярнуўся за дапамогай у рэдакцыю раённай газеты. Раённая газета дапамагла т. Марголіну дабіцца рэагавання. Насценгазета ў калгасе імя Молатава пачала працаваць значна лепш. Гэта-ж можна сказаць і пра насценгазеты ў калгасах імя Варашылава, «Зара», «Чырвоны маяк» і наогул пра большасць насценгазет, рэдагуемых нашымі завочнікамі.

На старонках раённай газеты мы паказвалі, як пачалі па-новаму працаваць



**Рэдактары калгасных насценгазет, завочнікі на кансультацыі-семінары.**

* * *

нашы завочнікі. Завочнікі Красоўская Надзя, Кудзін, Гарлоўскі, Мысліввец і многія другія сталі добрымі селькорамі раённай газеты.

Гэта быў пачатак завочнай вучобы. Большасць матэрыялу аставалася яшчэ прапрацаваць. Не ўсе завочнікі змаглі-б самастойна з гэтым справіцца. Выходзячы з гэтага, мы правялі яшчэ адну кансультацыю-семінар ужо не на пяць дзён, як першы раз, а на дзесяць. На гэту кансультацыю мы выклікалі не ўсіх завочнікаў, а толькі тых, якія не маглі самастойна справіцца з прапрацоўкай матэрыялу курсаў. З мацнейшымі завочнікамі мы наладзілі перапіску і пісьмовую кансультацыю. Другі семінар мы правялі па прынцыпу першага, увёўшы ў праграму дадаткова пытанні бягучай палітыкі і пытанні арганізацыі чыткі газет і мастацкай літаратуры ў брыгадах у часе сяўбы.

Прапрацавалі на семінары матэрыялы II усесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў, Прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі. З мастацкай літаратуры прачыталі на семінары «Дрыгву» Якуба Коласа. На гэтай аповесці мы вучылі рэдактароў, як патрэбна разумець мастацкі вобраз, мастацкі прыём, ідэю твора, як растлумачыць усё гэта калгаснікам.

Да 1 мая мы правядзем яшчэ адну кансультацыю па кустах сельсоветаў і па гэтым закончым прапрацоўку прысланых нам заданняў. Далейшую вучобу будзем прадаўжаць па ўказаннях «Крестьянской газеты».

**Смалявічы. Рэдакцыя раённай газеты «Шлях калектывізацыі».**

**ВЫВУЧАЕМ ВОПЫТ РАБОТЫ ФАБРЫЧНА-ЗАВОДСКАГА ДРУКУ МАСКВЫ І ЛЕНІНГРАДА**

# Рэдактары фабрычна-заводскіх газет БССР на экскурсіі



## ЭКСКУРСАНТЫ НА ЗАВОДЗЕ ІМЯ КІРАВА

Ленінград. **Завод імя Кірава** (б. «Красный путиловец»). У кантрольнай будцы афармляем пропуск. І вось мы ў рэдакцыі газеты «Кировец».

Знаёмімся з камплектамі «Кировца», з насценгазетамі завода. Радуе багацце тэматыкі газеты, яе ўдалае афармленне. «Кировец» — вялікая штодзенная газета. За ўзорную работу яна ўзнагароджана ордэнам Працоўнага сцяга. Рэдактар «Кировца» т. Анцэловіч расказвае нам аб рабоце рэдакцыі. 25 штатных работнікаў было раней у рэдакцыі «Кировца». Старонкі газеты былі запоўнены матэрыяламі рэдакцыйных работнікаў. Пісьмы рабочых, рабкораўскія заметкі займалі ў газеце зусім нязначнае месца.

Пасля ўказання тав. **Л. М. Кагановіча** на пленуме Камісіі партыйнага кантролю аб штатах заводскіх газет рэдакцыя «Кировца» рэзка скараціла свой штат. Замест 25 чалавек зараз працуе толькі 7, апрача тэхнічных работнікаў. Работа ад гэтага толькі палепшылася.

Раней было так. Усе работнікі рэдакцыі былі разбіты па сектарах. Кожны сектар займаўся сваім пытаннем. У выніку работнікі рэдакцыі не ведалі ўсёй работы завода, кожны ведаў толькі сваю галіну. Адны і тыя-ж рабкоры атрымлівалі заданні ад усіх сектароў. Масавая работа з рабкорамі была нездавальняючая.

Цяпер сектары ў рэдакцыі ліквідаваны. Ёсць некалькі інструктароў. Кожны інструктар прымацаван да групы цэхаў.

Рэзультаты гэтай перабудовы безумоўна станоўчыя. Работнікі рэдакцыі больш глыбока вывучаюць работу цэхаў, больш сустракаюцца з людзьмі. Інструктара газеты ў цэху пачалі паважаць як арганізатара друку. Прыток рабочых карэспандэнцый павялічыўся. Скарачэнне штатаў дало магчымасць зрабіць допіс рабочага асноўным матэрыялам газеты.

Кожны інструктар рэдакцыі звязан зараз з рабкорамі не толькі як арганізатар матэрыялаў для газеты. Ён праводзіць масавую работу, кіруе нізавым цэхавым друкам, вучыць працаваць, дапамагае яму.

Што робіць інструктар у сваіх цэхах?

Ён арганізоўвае па плану рэдакцыі матэрыялы для газеты, правярае праўдзівасць паступіўшых у рэдакцыю заметак. Усе матэрыялы па сваім цэхам афармляе і здае сам інструктар.

Але са здачай матэрыялу работа інструктара не канчаецца. Ён адказвае за далейшы лёс гэтага матэрыялу — гэта значыць за рэагаванне на яго.

Можа ўзнікнуць думка, што абавязкі інструктара вычэрпваюцца толькі выкананнем заданняў рэдакцыі. Гэта няправільна. **Інструктар — цэнтральная фігура ў рэдакцыі.** Інструктары, будучы цесна звязаны з усёй работай сваіх цэхаў, маюць магчымасць узнімаць у газеце рад сур'ёзных пытанняў. І трэба сказаць, што большасць актуальных пытанняў, намечаных у тэматычных планах газеты, узняты іменна інструктарамі.

А самае галоўнае — гэта тое, што інструктары ў сваіх цэхах праводзяць усе масавыя мерапрыемствы газеты, усю работу з рэдкалегіямі насценных газет і рабкорамі. Рабкораўская вучоба ў цэху, нарады рэдактароў насценных газет, рабкораўскія нарады — усё гэта падрыхтоўвае і праводзіць інструктар.

З сектароў у рэдакцыі астаўся толькі адзін сектар партыйнага будаўніцтва. Пытанні партыйнага будаўніцтва патрабуюць асабліва сур'ёзнага падыходу. І таму партсектарам рэдакцыі кіруе самы падрыхтаваны работнік.

Вялікае значэнне мае арганізацыя работы ў самой рэдакцыі. Раней бывала так: работнікі прыходзяць на работу калі кожнаму ўздумаецца, ходзяць па цэхах, мала працуюць над сабой, трацяць марна час.

А зараз устаноўлен цвёрды парадак работы рэдакцыі. Вызначан пэўны час прыходу на работу. Першыя дзве гадзіны вызначаны для чытання газет, рэдакцыйных нарад, якія праводзяцца штодзенна. Устаноўлен цвёрды тэрмін здачы матэрыялаў работнікамі: да 4-х гадзін дня ўсе матэрыялы павінны быць зданы.

На нарадзе абмяркоўваецца план работы. Кожнаму інструктару даецца заданне па арганізацыі матэрыялаў для наступнага нумара і план масавых мерапрыемстваў. Выходзячы з агульнарэдакцыйнага плана, інструктары вырацоўваюць план сваёй работы, дзе вызначаюцца канкрэтныя мерапрыемствы па масавай рабоце.

План кожнага нумара газеты складаецца на аснове месячнага тэматычнага плана. У тэматычным плане прадугледжаны асноўныя пытанні, з якімі рэдакцыя думае выступіць на старонках газеты на працягу месяца.

Створаны лепшыя ўмовы работы ў самой рэдакцыі. Прывялі ў парадак памяшканне, набылі неабходную колькасць сталоў, крэслаў, чарнільных прыбораў. Сцены рэдакцыі ўпрыгожылі партрэтамі правадыроў. Стварылі невялікую бібліятэку. Рабкор, які прыходзіць у рэдакцыю, адчувае, што ён знаходзіцца ў культурнай арганізацыі. Усё гэта мае вялікае значэнне для работы рэдакцыі і выхавання рабкораў.



У новай кузні «Чырвонага Пуцілаўца». Устаноўка пяцісоттоннага магутнага прэса.

* * *

Экскурсантаў цікавіла не толькі арганізацыя работы ў рэдакцыі, але і ўзаемаадносіны рэдакцыі з партыйным камітэтам, дапамога і кіраўніцтва парткома сваёй газетай.

І вось што расказаў нам тав. Анцэлевіч. Быў час, калі партком завода не велмі лічыўся з выступленнямі газеты, дрэнна рэагаваў на змяшчаемыя матэрыялы. Работнікаў рэдакцыі выкарыстоўвалі на іншай рабоце. Часткова прычынай гэтага была дрэнная работа самой газеты. Газета часта выступала з неправеранымі матэрыяламі супроць паасобных парторгаў і т. д. Усё гэта зніжала аўтарытэт газеты ў партыйнай арганізацыі.

Партыйны камітэт заняўся больш сур'ёзна работай сваёй газеты, узмацаваў рэдакцыю. Палепшылася работа газеты, вырас і яе аўтарытэт у партыйнай арганізацыі. Газета пачала больш займацца пытаннямі партыйнай работы. Возьмем за апошні час. К пленуму парткома «Кіровец» выступіў з цэлай паласой аб партыйнай рабоце, сур'ёзна паставіў пытанне аб вучобе партыйнага актыва, аб рабоце партыйных груп. На пленуме партыйнага камітэта выс-



Работнікі Ленінградскага Дома друку паказалі ўзоры таварыскіх, уважлівых адносін да нашых маладых журналістаў—рэдактароў фабрычна-заводскіх газет, прыехаўшых у Ленінград на экскурсію. Дом друку арганізаваў сустрэчу экскурсантаў з рэдактарамі буйнейшых фабрычна-заводскіх газет Ленінграда, правёў экскурсію па гораду на тэму «Стары Пецербург і новы Ленінград», наладзіў паходы ў тэатры і іншыя культурныя ўстановы. НА ЗДЫМКУ: рэдактары фабрычна-заводскіх газет сярод ленінградскіх журналістаў ў Доме друку. У цэнтры: тав. ШАЛЫТ, старшыня праўлення Дома друку; тав. АНЦЭЛОВІЧ, рэдактар газеты «Кировец».



коўвалася ва ўсіх брыгадах і цэхах завода. Цэлы месяц прадаўжалася абмеркаванне пісьма, правяралася становішча з вучобай у кожным цэху, работа школ. Выявілася, што такіх, як Нікіцін, на заводзе многа. Газета друкавала водгукі і прапановы рабочых. Пісьмо абмяркоўвалася і на пленуме партыйнага камітэта.

Нарэшце, Нікіцін прышоў у школу. Сотні Нікіцінных пачалі вучыцца. Партыйная вучоба на заводзе намнога палепшылася.

Не так даўно «Техника» ўзняла пытанне аб беражлівых адносінах да партыйнага білета. Яна арганізавала на сваіх старонках выступленні старых большэвікоў. Яны расказвалі, як яны берaглі свой партыйны білет у царскім падполлі.

Ці вось нядаўна газета змясціла такі матэрыял: «Шэсць дзён з жыцця Марусі Бурсінай».

У гэтым матэрыяле газета ў жывой і цікавай форме расказала аб рабоце і жыцці адной ударніцы завода.

Сур'ёзна займаецца газета пытаннямі выхавання дзяцей. «Техника» вядзе конкурс на лепшае выхаванне дзіцяці ў сям'і і школе, цэлыя старонкі газеты прысвечаны гэтым пытанням.

Многа ўвагі аддаецца пытанням культуры: мастацкай літаратуры, кіно, тэатру, фізкультуры і т. д. Усё гэта займае ганаровае месца на старонках газеты «Техника».

Багата і разнастайна тэматыка «Техники». Адсюль і вялікая зацікаўленасць рабочых «Красного треугольника» сваёй газетай.

Па прыкладу рэдакцыі «Техники» пашырыць, узбагаціць тэматыку сваёй газеты — з такой думкай пакінулі экскурсанты рэдакцыю «Техники».

★ ★ ★

Я. ІВАШЫН

# ГАЗЕТА Ў НОВЫМ РАЁНЕ

З чаго пачаць? — Такое пытанне, на мой погляд, не асабліва турбуе рэдактара ў новым раёне. Прыходзіцца пачынаць усё адначасова: ад выбару і абсталявання памяшкання для рэдакцыі і друкарні і да ўліку і арганізацыі селькораў вакол арганізуемай газеты. З гэтага, прынамсі, прышлося пачаць мне.

Адначасова з рамонтам і абсталяваннем памяшкання для рэдакцыі я ўзяўся за выяўленне калгасных насцентгазет, рабселькораў. Вядома, лягчэй за ўсё было-б пазнаёміцца з рэдактарамі насценгазет і рабселькорамі па спісах. Але па вопыту работы ў палітаддзельскай газеце Крупскай МТС я ад гэтага спосабу адмовіўся.

І вось чаму. Калі ў калгасах я стаў шукаць селькораў па спісу, атрыманаму з рэдакцыі крупскай раённай газеты «Камуністычны шлях», то аказалася, што ў ліку селькораў значылася нямала людзей, якія напісалі ў рэдакцыю тую ці іншую асабістую, часта беспадстаўную скаргу, а ніякага ўдзелу ні ў насценным друку, ні ў раённай газеце ніколі не прымалі.

Мы рашылі зрабіць інакш. Назначылі ў чатырох пунктах куставыя нарады рабселькораў з парадкам дня: «Аб выніках III усебеларускага рабселькораўскага з'езда». Запрасілі на гэтыя нарады праз парторгаў і рэдактараў насценгазет усіх таварышоў, якія пішуць у насценныя ці цэнтральныя газеты.

Тры пункты я, як рэдактар, узяўся абслужыць сам, каб асабіста азнаёміцца з людзьмі. Але гэта мне не зусім удалося таму, што парткамітэт у час, вызначаны для нарад селькораў, палічыў, відаць, «больш мэтазгодным» паслаць мяне ўпаўнаважаным у сельсовет па іншых справах.

Не варта было-б спасылацца на факты пасылкі рэдактара ўпаўнаважаным з першых-жа дзён яго прыезду ў раён, але прыходзіцца, бо ў кіруючых работнікаў раёна ёсць вельмі моцная тэндэнцыя скарыстаць рэдактара на рабоце ў сельсоветах, пачынаючы ад кантрактацыі пасеваў ільну і канчаючы дасягненнем плана па загатоўцы шэрсці. І з гэтым прыходзіцца змагацца з першых-жа дзён работы ў раёне.

Пяройдзем да паліграфічнай базы. Трэба выпускаць газету, а друкарні няма. Звараемся ў Белпаліграфтрэст з просьбай паскорыць арганізацыю друкарні ў раёне, а загадчык аддзела снабжэння раённага друку т. Салавейчык адмахваецца. Ён спасылаецца на свой «план», па якому завоз шрыфта і машыны ў наш раён прызначан на 15 красавіка. І толькі калі мы самі адправілі грузавік у Дзяржынскі раён за друкарскай машынай, Салавейчык пашоў на ўступкі. Шрыфт і машыну прывезлі.

Дзе ўзяць наборшчыкаў?

І ў гэтай надзвычай важнай справе нам ніхто не дапамог.

У ЦК саюза работнікаў паліграфпрамысловасці абмежаваліся тым, што парайлі нам паззваніць у Рагачоў.

Каб выпусціць першы нумар газеты к дню раённага з'езда советаў, які адбыўся 20 сакавіка, нам прышлося наняць падзенна наборшчыкаў з Менска, а потым званіць ва ўсе бліжэйшыя раёны «ці няма лішніх наборшчыкаў».

Хопіць аб гэтым. Так ці інакш цяжкасці арганізацыйнага перыяда—справа мінулага. Наша газета вышла першай з усіх газет у новаарганізаваных раёнах і на месяц раней, як гэта меркавалася па плану.

Больш складанае пытанне аб людзях. Не будзе ніякага перавелічэння, калі сказаць, што ўся работа па выпуску газеты да найменшых «дробязей» ляжыць на рэдактару.

Рэдактар—сам і сакратар, сам і карэктар, сам і загадчык усіх аддзелаў. Словам «адзін ва ўсіх асобах» і на працягу ўсяго часу з выхаду першага нумара яшчэ не было такога дня, калі-б я мог выйсці з рэдакцыі раней 2—3 гадзін ночы.

Недахват газетных работнікаў асаб-

ліва дае сябе зддуваць у новым раёне.

Надыходзіць выпуск КІЖ'а і пры размеркаванні выпускнікоў трэба мець на ўвазе рэдакцыі газет новых раёнаў. А да выпуску варта было-б прыгледзецца да складу газетных работнікаў у старых раёнах, маючых ужо моцны рабсенькораўскі актыў, маючых магчымасць вылучыць лепшых людзей з гэтага актыва на работу ў рэдакцыю, і па магчымасці ўмацаваць рэдакцыі новых раёнаў.

І нарэшце аб шрыфтах. Можна было-б яшчэ мірыцца з такім становішчам, калі, надрукаваўшы адну старонку, прыходзіцца яе разбіраць, каб скарыстаць асобныя літары, коскі, знакі пераносу для другой. Але калі гэтых знакаў не хапае, што тады рабіць? Не змяшчаць-жа ў газеце заўвагі: «пераносаў і коскак не даем з-за адсутнасці іх».

Між тым за гэтымі «дробязямі» мы нямала абіваем парогі ў Белпаліграфтрэсце, а толку пакуль што ніякага.

З-за бяздзейнасці арганізацый, снабжаючых газеты шрыфтамі, рэдактару прыходзіцца чырванець перад чытачамі.

**БАЙКАЧОЎ**

Рэдактар Талачынскай раённай газеты «Калгаснік Талачыншчыны».

# ІВАН КІВАЕ НА ПЯТРА

Апошнія месяцы раённыя газеты з вялікімі перабоямі забяспечваюцца газетнай паперай. І вінават у гэтым выключна Саюзпаперзбыт. Гэта па яго віне часта зрываецца выхад газет.

Вось прыклад. 8-IV я прыехаў у Менск за паперай. Дырэктар Саюзпаперзбыта т. **Румянаў** і адказны выканаўца т. **Файн** запэўнілі мяне, што 550 кілограм паперы для талачынскай газеты будуць адпраўлены 10-IV. Прайшло 10-е, 15-е і 18-е красавіка, а паперы мы ўсё не атрымалі. 4 дні не выходзіла газета. Прышлося зноў ехаць у Менск. Але і на гэты раз толку не дабіўся. Кіраўнікі арцелі «Іскра», якой было даручана адправіць паперу, заяўляюць, што вінаваты начальнік станцыі, які не прымае для адпраўкі паперу, і загадчык склада Паперзбыта тав. **Арко,** які не турбуецца аб адпраўцы. Работнікі-ж Паперзбыта заяўляюць, што адпраўляць паперу абавязана арцель «Іскра».

У выніку папера для **11 райгазет** валяецца на складах у Менску, газеты вымушаны спыняць выхад толькі таму, што кіраўнікі Паперзбыта лічаць «дробяззю» адпраўку паперы для райгазет, не хочуць гэтай «дробяззю» займацца.

І яшчэ адна сур'ёзная заўвага. Папера, якую прысылае Паперзбыт праз арцель «Іскра», фарматам не заўсёды роўная. Часта прысылаюць паперу шырэй і карацей фармату. Паперу гэту нельга ўзяць на машыну—многа браку, газета атрымліваецца шырокай, кароткай, нейкай уродай.

Аб гэтым не раз заяўлялі і т. Румянаву, і кіраўніку арцелі «Іскра» т. **Старобінскаму**, але яны спасылаюцца адзін на аднаго. Румянаў заяўляе: «Мы далі фармат арцелі», а кіраўнікі арцелі скардзяцца на Паперзбыт: «ён дае нам рулонны зрыў, ад зрыву-ж атрымліваецца многа браку. А мы не хочам страт».

А церпяць ад бюракратычных парадкаў і ведамственых спрэчак Саюзпаперзбыта і арцелі «Іскра» рэдакцыі раённых газет. Калі ў друкарні няма рэзальнай машыны, прыходзіцца рэзаць паперу нажом. У выніку многа страт і дарэмнае марнаванне часу.

«Іванківае на Пятра», а забеспячэннем газет паперай ніхто як належыць не займаецца. Кіраўнікі Паперзбыта лічаць абслугоўванне раённай газеты «грамадскай нагрузкай». А адказваць за бесперабойнае забеспячэнне газет паперай абавязан іменна Саюзпаперзбыт.

**ЯКУЦЬ.** Рэдактар шматтыражкі «Чырвоны Окцябр».

# ЦІ БУДЗЕ КАНЕЦ АГІДНАЙ ГІСТОРЫІ?

27 студзеня 1935 года рэдакцыя шматтыражкі **«Чырвоны Окцябр»** рэчыцкай запалкавай фабрыкі «Х Окцябр» атрымала з Саюзпаперзбыта наступнае паведамленне: «Вам на 1935 год зацверджан ліміт на вашу шматтыражку 750 экземпляраў, 3 нумары ў месяц з выдаткам паперы 14 кілограмаў, на што намі дана распараджэнне гомельскай базе Белдзяржснаба аб выдачы паказанай колькасці паперы кожны месяц».

Атрымаўшы гэта паведамленне, мы паслалі ў Гомель чалавека за паперай. У Белдзяржснабе перакапалі ўсе паперы, але нарада на паперу для нашай шматтыражкі не знайшлі. Паперу мы не атрымалі.

Прайшло тры месяцы, і рэдакцыя зноў атрымлівае паведамленне ўжо з гомельскага аддзялення Белдзяржснаба. Гэта была копія паперкі, пасланай у Менск Саюзпаперзбыту. У паведамленні пісалася: «Зварачаем вашу ўвагу на тое, што ў вашай разнарадцы шматтыражак пад № 11 паказана «8 кастрычнік—Гомель», а ў Гомелі ёсць панчошная фабрыка «8-е сакавіка», якой увесь час адпускаецца папера праз Палесдрук».

Прачытаўшы гэту паперку, мы зразумелі, чаму не знайшлі нарада на паперу для нашай шматтыражкі. Нейкі галавацяп з Саюзпаперзбыта пераблытаў назву нашай фабрыкі.

Здавалася-б, чаго прасцей тэрмінова выправіць агідную памылку і выдаць фабрыцы паперу. Але, не. Пачалася перапіска, высвятляюць, удакладняюць, а фабрыка не атрымала паперы і да сённяшняга дня. Прышлося спыніць выхад шматтыражкі.

Дакуль-жа будзе цягнуцца гэта агіднейшая гісторыя?

**ЗІМІН.**—Нам. рэдактара дубровенскай райгазеты «За соцыялістычнае будаўніцтва».

# АБ АДНОЙ ЗАКІНУТАЙ РЭДАКЦЫІ

Няма ў Дубровенскім раёне ні адной установы, якая-б працавала ў такіх надзвычай дрэнных умовах, як рэдакцыя газеты «За соцыялістычнае будаўніцтва». 9 работнікаў рэдакцыі працуюць у адным пакойчыку, уся плошча якога займае 5 кв. метраў.

Калі дадаць, што ў дні выхаду шматтыражкі фабрыкі «Дняпроўская мануфактура» (а выходзіць яна 6 раз у месяц) і газеты палітаддзела соўгаса «Соревнование» (3 разы ў месяц) рэдактары гэтых газет працуюць у гэтым-жа невялічкім пакойчыку, стане зусім зразумелым, што прадукцыйнай працы ў такіх умовах чакаць цяжка.

Кожную раніцу ў рэдакцыі пачынаецца «барацьба за рабочае месца». Кожны з работнікаў імкнецца хутчэй захапіць невялічкі вугалок за адным з 4 сталоў.

Рабочы час у рэдакцыі выкарыстоўваецца выключна дрэнна. Пры ўсім жаданні працаваць у памяшканні рэдакцыі нельга. Шум і безупынныя сваркі за месца для работы—вось штодзённыя з'явы ў рэдакцыі дубровенскай газеты.

Райком партыі не прымае ніякіх мер для таго, каб стварыць адпаведныя ўмовы для работы газеты. Аднаго разу зайшоў у рэдакцыю сакратар райкома КП(б)Б т. Кудзелька, падзівіўся з нашых далёка не адпавядаючых умоў працы, і на гэтым справа скончылася.

Нядаўна РВК вынес пастанову аб рамонце аднаго будынка для рэдакцыі. Але пакуль што пастанова так і асталася толькі пастановай. Да рамонту яшчэ і не думаюць прыступаць.

Хіба можна пасля гэтага гаварыць аб прадукцыйнасці і высокай якасці работы рэдакцыі?

**Б. КОЗІНЦАЎ** — рэдактар газеты «Калгаснік Мазыршчыны»:

# ПІСЬМО ПРАЦОЎНАГА Ў АСНОВЕ РАБОТЫ РЭДАКЦЫІ

За мінулы год і пачатак 1935 года рэдакцыя газеты **«Калгаснік Мазыршчыны»** дабілася значнага паляпшэння работы з рабселькораўскімі заметкамі і пісьмамі працоўных. Як вынік гэтага, значна павялічыўся прыток пісем у газету.

Калі ў 1933 годзе мы атрымалі 5237 пісем, то ў 1934 годзе колькасць іх узрасла да 5717. Трэба мець на ўвазе, што ў 1934 годзе ў раёне выходзілі апрача раённай газеты яшчэ дзве друкаваныя газеты — палітаддзела МТС і шматтыражка леспрамгаса.

Па пісьмах рабочых і калгаснікаў газета ўзняла нямала спраў аб скажэнні рэвалюцыйнай законнасці, зажыме самакрытыкі і бюракратычным рэагаванні на пісьмы працоўных.

Не ўсе пісьмы мы скарыстоўваем аднолькава. Да кожнага падыходзім асобна. Па аднаму пісьму мы абмяжоўваемся адказам аўтару, другое пасылаем на расследванне і паведамляем аб гэтым аўтару. Пераважная-ж большасць пісем працоўных друкуецца на старонках газеты. Пісьмы, у якіх узнімаюцца асабліва сур'ёзныя пытанні, расследуюцца на месцы работнікамі рэдакцыі, пасля чаго змяшчаюцца вынікі расследвання. Часта пытанню, узнятаму ў пісьме працоўнага, мы прысвячаем і перадавы артыкул.

Такая пастаноўка работы з пісьмом дае нам магчымасць даводзіць да канца справы, якія ўзнімаюць селькоры і працоўныя, дабіцца хуткага і вычарпальнага рэагавання на пісьмы.

Калі якая-небудзь арганізацыя не хоча рэагаваць, тады газета ставіць пытанне аб кіраўніках гэтай арганізацыі ў райкоме партыі ці райвыканкоме. Напрыклад, за нерэагаванне на пісьмы працоўных і допісы рабселькораў старшыні райспажыўсаюза Сокалаву райком вынес суровую вымову, пасля чаго па нашых-жа выступленнях суд прысудзіў яго на 3 месяцы прымусовых работ. За несвоечасовае рэагаванне на пісьмо аб шкодніцтве ў канторы Белплодагароднína райком КП(б)Б наладжыў партспагнанне на райпракурора тав. **Баркана.**

Мы сістэматычна праводзім рэйды, з прыцягненнем саміх рабселькораў і груп «лёгкай кавалерыі», па праверцы рэагавання на пісьмы працоўных і допісы рабселькораў раённымі ўстановамі і сельсоветамі. Такіх рэйдаў на працягу года мы правялі каля 12.

Па-мойму, немалую ролю ў наладжванні работы з пісьмом адыгрывае такая простая рэч, як правільны ўлік наступлення і руху допісаў у рэдакцыі. У аглядах друку, змешчаных у «Звяздзе», «Большэвіцкім друку», «Рабочем» і іншых цэнтральных газетах, часта ўказваецца, што ў асобных раённых рэдакцыях пісьмы сотнямі валяюцца, нават гінуць у сталах работнікаў рэдакцыі. Так было раней і ў нашай газеце.

У пачатку 1934 года мы завялі правільны і дакладны ўлік пісем. Гэта дае нам магчымасць лепш паставіць работу з пісьмамі працоўных і рабселькораўскімі заметкамі.

* * *



**На тэрыторыі Жыткавіцкага раёна ёсць дзве буйнейшыя ў БССР рыбныя гаспадаркі. Адна з гэтых гаспадарак—«Чырвоная зорка»—дала ў мінулым годзе 133 тыс. рублёў чыстага прыбытку. На здымку: рабочыя рыбнай гаспадаркі «Чырвоная зорка» з карпамі — прадукцыяй рыбгаса.**

Крытычныя заметкі

# ДЭМАНСТРАЦЫЯ БЕЗАДКАЗНАСЦІ

**«Раніца выдалася надзвычайна халодная, рэзкі паўночны вецер хуліганіў, валіў з ног, бессаромна задзіраючы падолы мітусячыхся па двару скотніц, даярак».**

Так пачынае **«Комунар Магілеўшчыны»** свой артыкул «Дэманстрацыя баявой гатоўнасці», прысвечаны пробнаму выезду ў поле каапгаса «Цішаўка». На пробны выезд у «Цішаўку» прыбыла ўзаемаправерачная брыгада з каапгаса «Казіміраўка».

**«Яшчэ не было сігнала на выезд, а брыгада рассыпалася па каапгасу ў «разведку»: допытваюць рабочых каапгаса «Цішоўкі», ці ведаюць яны свой план, нормы выпрацоўкі. Праводзяць налёты на свірны, стайню, кароўнік».**

«Разведка», «допыты рабочых», «налёты» — у такім ваяўнічым тоне апісвае газета работу праверачнай брыгады.

Аддаўшы належную даніну рабоце брыгады, газета пераходзіць да пераказу таго, што-ж убачылі прадстаўнікі каапгаса «Казіміраўа». Вось брыгада зайшла ў кароўнік.

**«Магутным рыкам агалошваецца кароўнік, калі туды заходзіць брыгада, — гэта прыгожы волат — бык дае зразумець прышоўшым што тут ён гаспадар і што ён не вельмі любіць чужых.**

**На пасыпанай свежымі апілкамі падлозе забаўляюцца сытыя сасункі, яны толькі 2—3 дні назад «убачылі свет» і рухлівасці іх няма мяжы. Выгнуўшы спіны, задраўшы хвасты ў гару, сасункі спаборнічаюць у бегах, прыжках. Усе яны падобны на свайго бацьку».**

За «магутным рыкам» «гаспадара кароўніка» і «спаборніцтвам цялят па бегу і прыжкам» (і якую толькі бязглуздзіцу не могуць працягнуць у газету дасужыя карэспандэнты з папушчэння бесклапотнага рэдактара) аўтар артыкула Юргіс не ўбачыў сапраўднага становішча ў кароўніку. А ў сапраўднасці становішча такое. Маленькія цяляты валяюцца ў гнаі. Для ацёлу кароў няма не толькі радзільнага памяшкання, але нават і асобнага станка. Цялятам штодня пагражае небяспека быць растаптанымі каровамі.

Яшчэ горшы малюнак убачыў-бы аўтар, калі-б ён зазірнуў у цялятнік. Ён-бы ўбачыў, у якой цеснаце стаяць там цяляты, ён бы ўпэўніўся, што няма ізалятара для хворых цялят і т. д.

Але гэтага карэспандэнт «Комунара Магілеўшчыны» «не заўважыў». Захапіўшыся апісаннем таго, як

**«А поўдні нібы на пажар раздаецца трывожны звон»,**

склікаючы на пробны выезд у поле, і разважаннямі аб тым, што «каапгас «Цішоўка» правёў вялікую работу па падрыхтоўцы да сяўбы», «Комунар Магілеўшчыны» «не заўважыў» і таго, што кіраўнікі каапгаса ўзялі злачынную антыдзяржаўную стаўку на нізкі ўраджай — ніжэй леташніх паказальнікаў і ніжэй ўзроўню сярэдніх паказальнікаў па раёну.

І апошняе. Газета піша аб баявой гатоўнасці каапгаса да сяўбы ў той час, калі

**«У каапгасе яшчэ не поўнасцю вывезен гной, няма добрага догляду за коньмі (дрэнна чысцяцца). Не наладжана нармовая работа ясляў. Выключна дрэнна абстаіць справа з культурна-бытавымі ўмовамі рабочых. Інтэрнат, які будуецца на працягу 4-х год, не закончан. З-за адсутнасці інтэрната не ўкамплектован поўнасцю штат сезонных рабочых».**

Якая-ж гэта дэманстрацыя баявой гатоўнасці, таварышы з «Комунара Магілеўшчыны»?

# Няўдалы бюлетэнь

**Уваравіцкая** раённая газета **«Калектывіст»** выдае ў якасці дадатка «Пасеўны бюлетэнь». 3 нумар гэтага бюлетэня ад 20 красавіка, прысвечаны недахопам калгаса «Прасвет», зроблен на рэдкасць дрэнна.

У пачатку бюлетэня чытаем «шапку»:

**«Старшыні калгасаў, калгасныя брыгадзіры, брыгадныя інспектары якасці і калгасныя камісіі якасці на рэбоце калгаса «Прасвет» павінны павучыцца — як не трэба працаваць у часе веснавой сяўбы».**

Не трэба быць мудрацом, каб пераканацца ў няправільнасці гэтага заклікy газеты. Брыгадзіры і інспектары якасці павінны вучыцца таму, як трэба па-бальшэвіцку працаваць, а не таму, як не трэба працаваць.

Чытаем бюлетэнь далей. У адной з заметак бюлетэня паведамляецца, што ў калгасе «Прасвет» своечасова не разглядаюцца заявы аднаасобнікаў аб уступленні ў калгас. У загалоўку-ж заметкі ні к селу ні к гораду чытаем: «Марынуюць заявы калгаснікаў».

І пад гэтай заметкай адразу ідзе:

**«Пленум лічыць, што пасеў зерновых культур (пшаніца, авёс, ячмень) павінен быць праведзен за 10—15 дзён».**

Які пленум — гэтага рэдакцыя не лічыць патрэбным паведаміць чытачам. Чытач павінен сам здагадвацца, што гутарка ідзе аб красавіцкім пленуме ЦК КП(б)Б. І гэта вытрымка з пастановы пленума нічым не аддзелена ад заметкі, зліваецца з ёю.

Некалькі дадатковых заўваг аб гэтым нумары «Пасеўнага бюлетэня». Рэдакцыя імкнулася ўскрыць у ім памылкі калгаса «Прасвет» і папярэдзіць іншыя калгасы аб недапушчэнні гэтых памылак.

Замысел рэдакцыі не ўдаўся. Бюлетэнь зроблен наспех, з налёту. У ім закранута многа галін работы калгаса «Прасвет» і ні адна не паказана як належыць. На двух невялічкіх старонках бюлетэня рэдакцыя ўмудрылася змясціць заметачкі аб якасці сяўбы, аб расстаноўцы сіл у брыгадах, аб рэагаванні на заметкі праўленнем калгаса, аб брыгадных газетах, аб марынаванні заяў аднаасобнікаў.

Атрымаўся нейкі галоп па калгасу. І хоць рэдакцыя горача заклікае ўсе калгасы раёна ўлічыць памылкі калгаса «Прасвет», трэба моцна сумнявацца ў тым, што гэты заклік дасягне мэты.

Паўстае два пытанні к рэдакцыі ўваравіцкага «Калектывіста». Першае: ці не лепш было-б напісаць адзін артыкул, у якім толкова ўскрыць памылкі калгаса.

Другое: Ці патрэбна ўваравіцкай рэдакцыі выдаваць акрамя газеты яшчэ гэты дрэнны бюлетэнь, ці не карысней было-б палепшыць змест і афармленне самой газеты, у самой газеце глыбей і сур'ёзней весці пытанні веснавой сяўбы.







Пісьманосец калгаса «Комінтэрн», Жыткавіцкага раёна, тав. Алесь Хільман наладзіў рэгулярную дастаўку газет у брыгады на поле. На здымку: раздача калгаснікам раённай газеты «Прымежны калгаснік».

АБМЯРКОЎВАЕМ ПЫТАННЕ АБ ПАДБОРЦЫ У ГАЗЕЦЕ

МЯТЛА В. К. — адказны рэдактар газеты «Бальшэвік Барысаўшчыны».

# ПАДБОРКА ПАТРЭБНА

Пытанне, узнятае тав. **Гарт** на старонках журнала «Бальшэвіцкі друк» аб падборцы ў газеце, надзвычай важнае і цікавячае ўсіх работнікаў раённых газет.

Асноўнае, што прапануе тав. Гарт, гэта скараціць лік падборак і расшырыць тэматыку. Па-мойму, тут адно другому не супярэчыць. Тэматыку мы павінны і абавязаны расшыраць, калі хочам, каб газета асвятляла ўсё цікавае, што ёсць у раёне, і расшырала круг сваіх чытачоў. Але-ж гэта не гаворыць за тое, што падборка не патрэбна.

У сваёй газеце я раблю так. Калі рэдакцыя атрымлівае карэспандэнцыі селькораў па якому-небудзь важнаму пытанню, сігнал, што патрабуе хуткага рэагавання, то такія сігналы зараз-жа, не чакаючы, пакуль збярэцца па гэтаму пытанню некалькі матэрыялаў, даюцца баявымі, аператыўнымі заметкамі.

Але было-б няправільна раённай газеце ператвараць гэта ў правіла, як раіць тав. Гарт. Калі пераключыцца на асобныя заметкі, то на паласе ў 10—15 заметак (а ў нас іх часамі змяшчаецца і больш) цяжка будзе паказаць, на што мы звараčаем галоўную ўвагу. Тут ужо ігра шрыфтоў не дапаможа. Гэта будзе бюлетэнь, а не баявая газета.

Каб зрабіць нумар газеты баявым, аператыўным, дзейсным, даходчывым і разам з тым даць шырокую тэматыку, нумар павінен будавацца так: кожная сярэдняя паласа павінна мець прыкладна 2—3 падборкі, калі няма падвала, і апрача таго асобныя аператыўныя артыкулы, ці пастаянныя аддзелы, як: «у партарганізацыі», «гандлёвая хроніка», «па раёну» і т. д. На першай і чацвертай паласе даваць не больш адной падборкі. Такая планіроўка

нумара якраз і дае вялікія магчымасці раcшыраць тэматыку.

Як і ў якіх выпадках павінна быць пабудавана падборка?

Каб найбольш поўна асвятліць якое-небудзь пытанне, асабліва ў газеце, якая выходзіць не штодзенна і па кожнаму пытанню даваць часта матэрыялы не можа, трэба шырока ўжываць падборку.

Узяўшы 2—3 артыкулы селькораў, дадаўшы, калі гэта патрэбна для паўнаты асвятлення пытання, арганізаваны рэдакцыяй матэрыял, забяспечыўшы кароценькім абагульняючым артыкулам ад рэдакцыі, мы можам паказаць пытанне ў такім святле, як патрабуе абстаноўка.

Даўшы над гэтым матэрыялам кароткую выразную шапку, мы і атрымаем тое, што называецца падборкай, а чытач, узяўшы газету ў рукі з першага погляду ўбачыць, што сёння самае галоўнае ў нумары.

Падборка асабліва вялікае значэнне набывае пры калектыўнай прапрацоўцы газетных матэрыялаў у брыгадах, у часе абедзеных перапынкаў, калі трэба ў кароткі тэрмін прачытаць галоўнае, найбольш важнае, што ёсць у газеце.

З усяго гэтага выцякае вывад. Побач са змяшчэннем асобных карэспандэнцый, трэба даваць і падборку, якая павінна быць аператыўнай і не складацца з залежалых заметак, як гэта часта ў некаторых газетах практыкуецца.

Зараз некалькі слоў аб «шапках» у газеце.

Праглядаючы раённыя газеты, я заўважыў, што рад газет пераcталі даваць «шапкі». Я лічу гэта няправільным. Калі ў цэнтральных газетах, як «Праўда», «Звязда», якія разлічаны на больш падрыхтаванага чытача, «шапка» не адыгрывае такой ролі, то ў раённай газеце кароткая, ясная «шапка», якая арыентуе калгасніка, неабходна, ад «шапкі» нельга адмовіцца.

# Зрабіць газету цікавай, палітычна-завостранай

Пытанне аб падборцы ў газеце, пастаўленае рэдакцыяй «Бальшэвіцкага друку» на абмеркаванне газетных работнікаў, мае вялікае значэнне. Зараз як ніколі прышла пара абмеркаваць гэта пытанне. Я маю на ўвазе раённую газету. Наш раённы друк узрос, узмацніўся, выхаваў сотні здольных, ведаючых сваю справу работнікаў. І зараз асабліва востра стаіць задача: зрабіць раённую газету больш цікавай, чытабельнай, палітычна-завостранай. І ў гэтым сэнсе пытанне аб падборцы набывае асаблівае значэнне.

**Падборка, бясспрэчна, патрэбна.** Адмаўляцца ад падборкі нельга.

Я мяркую, што ў кожным нумары газеты патрэбна даваць некалькі падборак. Але лік падборак у адным нумары трэба скараціць. Вялікая колькасць падборак звужвае круг закранутых у газеце пытанняў. У падборцы можа быць дзве-тры заметкі, адпавядаючае ім клішэ, «шапка».

Возьмем, напрыклад, падборкі аб сяўбе. Не абавязкова, зразумела, у адной падборцы ахапіць усе пытанні сяўбы. Чаму-б не прысвяціць асобныя падборкі рабоце інспектароў якасці; разгортванню соцспаборніцтва, арганізацыі работы ў брыгадзе, агратэхніцы сяўбы, масавай рабоце на сяўбе. Такія падборкі сістэматычна, па плану, патрэбна арганізоўваць.

Можа паўстаць пытанне: як быць з селькораўскай заметкай, якая мае вялікую каштоўнасць, але не падыходзіць да той ці іншай падборкі. Селькор, пішучы яе, не меў на ўвазе, што рэдакцыя рыхтуе зусім другую падборку. Такую заметку безумоўна, хоць у ёй гаворыцца, напрыклад, аб якасці сяўбы, а падборка ідзе аб масавай рабоце на сяўбе, усё-ж трэба змясціць у гэтай-жа падборцы.

Астатні матэрыял трэба даваць кароценькімі заметкамі. Але мала выдзеліць гэтыя заметкі асобнымі шрыфтамі і надрукаваць на відным месцы, як прапануе т. Фаўбераў. Трэба яшчэ даваць над такімі заметкамі абагульняючыя загалоўкі «На культурныя тэмы», «Нам пішуць», «На тэму дня» і т. д.

**В. СУХОЦКІ**—загадчык сельскагаспадарчага сектара жыткавіцкай райгазеты «Прымежны комунар».

## ПАСЛЯ З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ

* * *

# ПА ІНШАМУ ЦЯПЕР ПРАЦУЕ РЭДКАЛЕГІЯ

У верасні 1934 года мы знаёміліся са становішчам нізавога друку на абутковай фабрыцы імя Кагановіча. Амаль не было тады на фабрыцы дзейсных баявых насценгазет. Шматтыражка доўгі час не выходзіла, не было рэдактара. Нізавымі газетамі ніхто не кіраваў.

У пашывачным цэху калі-ні-калі з'яўляўся нумар насценгазеты. Насценгазета гэта пісалася і афармлялася адным ці двума членамі рэдкалегіі, рабкоры-ж у яе не пісалі. Газета была адарвана ад рабочых цэха.

Так было ў верасні.

Зусім інакш стаў працаваць нізавы друк фабрыкі пасля ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Цяпер на фабрыцы выходзяць баявыя дзейсныя насценгазеты—цэхавыя, зменныя і брыгадныя, якія вядуць барацьбу за суцэльную тэхнічную граматнасць, за высокую якасць прадукцыі.

Іншай стала і газета пашывачнага цэха **«Большэвіцкае вока»**.

Рабкор Рэзнікаў напісаў у газету, што майстар Фрадкін не адпавядае свайму прызначэнню. Па яго віне брыгада рэзнікаў адставала. Рэдкалегія дабіваецца рэагавання на гэту заметку. Фрадкін быў зняты з работы і брыгада пачала выконваць свой промфінплан. Работніца Казакевіч дапускала вялікую сортнасць выпуску прадукцыі. Пасля таго, як газета ўказала ёй на недахопы, яна пачала значна лепш працаваць. Такіх фактаў можна прывесці многа. Цяпер штодзенка «Большэвіцкае вока»—кандыдат на прэмію па абвешчанаму шматтыражкай конкурсу на лепшую нізавую газету фабрыкі.

Першае, з чаго пачала сваю работу новая рэдкалегія,—гэта з распрацоўкі плана работы. Ёсць тэматычны план кожнага нумара, з якім рэдкалегія знаёміць рабкораў. Так, ужо 22 красавіка членам рэдкалегіі і рабкорам быў вядом план майскага нумара газеты. План быў складзен наступны: перадавы «1 мая»—рыхтуе Ласкін; «У нас і ў іх» (на міжнародныя тэмы)—падбірае рэдкалегія; дасягненні нашай групы—рыхтуе Рахліс; падрыхтоўка і ўпрыгожанне кватэр да 1 мая—рабкораўскі матэрыял; як я стаў ударнікам і аўладаў тэхнікай—Гузін; фотаздымкі лепшых людзей групы.

«Большэвіцкае вока» нядрэнна вядзе барацьбу за суцэльны тэхнічна граматны цэх, за марксісцка-ленінскую вучобу, за лепшае выхоўванне дзяцей.

У № 48 ад 17 сакавіка, які быў прысвечан узнагароджанню БССР і тт. **Гікало і Галадзеда** ордэнам Леніна, газета заклікала: «Будзем дастойны высокай узнагароды, будзем працаваць яшчэ лепш, не супакойваючыся на дасягнутых поспехах». У гэтым-жа нумары былі змешчаны карэспандэнцыі рабочага Шамкуць і другіх, якія ў адзнаку ўзнагароджання БССР ордэнам Леніна абавязаліся лепш вучыцца ў партыйнай школе, лепш выхоўваць сваіх дзяцей і т. д. Штодзенка не абмежавалася змяшчэннем гэтых абавязацельстваў. Яна пры дапамозе брыгад друку арганізавала праверку іх выканання, змяшчае вынікі гэтай праверкі.

Пад лозунгам: «Да 1 мая наша група павінна стаць суцэльна тэхнічна граматнай», газета з нумара ў нумар паказвае ход тэхэкзамена, работу тэхнічных гурткоў, аўладанне тэхнікай паасобнымі рабочымі.

Рэзка бічуючы недахопы, газета адначасова выхоўвае рабочых свайго цэха на прыкладах работы лепшых людзей-ударнікаў. Тры спецыяльныя бюлетэні, прысвечаныя барацьбе за суцэльную тэхнічную граматнасць і высокую якасць прадукцыі, выпусціла газета «Большэвіцкае вока».

— Рабкораў у нас стала на многа больш пасля з'езда рабселькораў,—гаворыць рэдактар штодзенкі т. Гудаў. — З членамі рэдкалегіі і рабкорамі мы прапрацавалі даклад тав. Коніка і адозву III рабселькораўскага з'езда, і цяпер нашы рабкоры значна лепш працуюць.

**Р. СІМХОВІЧ.**

# НА АБАРОНУ РАБСЕЛЬКОРА

«ПРАСЛЕДВАННІ РАБОЧЫХ І СЕЛЬСКІХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ ЁСЦЬ ВАРВАРСТВА, ПЕРАЖЫТАК БУРЖУАЗНЫХ НОРАВАЎ. АБАРОНУ АД ПРАСЛЕДВАННЯ СВАЙГО КАРЭСПАНДЭНТА ПАВІННА ЎЗЯЦЬ НА СЯБЕ ГАЗЕТА, ЯКАЯ АДНА ТОЛЬКІ ЗДОЛЬНА ПАДНЯЦЬ ЖОРСТКУЮ, ВЫКРЫВАЮЧУЮ АГІТАЦЫЮ СУПРОЦЬ МРАКАБЕССЯ». **(СТАЛІН).**

## «САМАДУР КІРЭЕЎ НЕ ЎНІМАЕЦЦА»

Аршанская раённая газета **«Ленінскі прызыў»** выступіла ў абарону селькора **Васіля Мацвеева** ад праследвання старшыні калгаса «Вызваленне жанчын» Кірэева.

Тав. Мацвееў—рэдактар калгаснай насценгазеты—сумесна з селькорам **Шутавым** выкрылі ў раённай газеце злачынства старшыні калгаса. Яны напісалі ў раённую газету аб тым, што Кірэеў незаконна ўзяў для сябе з фермы карову, збыў пародзістага кныра, незаконна раздае з калгаснай фермы цялят і т. д. 30-га сакавіка, калі ўся гэта справа разглядалася на агульным сходзе калгаса, Кірэеў, стукаючы кулаком па сталу, стаў пагражаць рэдактару насценгазеты Мацвееву:

— Я цябе зніму з брыгадзіра, выганю з калгаса.

І следам за пагрозамі паследавалі дзеянні. На пасяджэнні праўлення калгаса Кірэеў дабіваецца зняцця з работы некалькі раз прэміраванага пісьманосца Шутава (бацька селькора Шутава). І, урэшце, Кірэеў знімае з работы брыгадзіра і выводзіць са складу праўлення калгаса і Мацвеева.

Пры малейшых спробах указаць на тыя ці іншыя недахопы ў калгасе Кірэеў пагражае: «Выганю з калгаса».

У справу селькора Шутава і рэдактара насценгазеты Мацвеева ўмяшалася раённая газета. Задача рэдакцыі давесці гэту справу да канца, дабіцца ад пралетарскага суда суровага пакарання глушыцеляў самакрытыкі, праследвальнікаў рабселькораў.

## СПРАВА, ЯКУЮ НЕДААЦАНІЛА РАЁННАЯ ГАЗЕТА

Лоеўская раённая газета **«Калгаснік»** друкуе пісьмо селькора **Анікеенка** аб праследваннях яго як селькора. У 1933 годзе раз'юшаныя класава-варожыя элементы, выкрытыя селькорам праз раённую газету, арганізавалі напад на тав. Анікеенку і збілі яго. Пралетарскі суд прыгаварыў вінаватых да 8 гадоў зняволення.

У 1934 годзе тав. Анікеенка быў вылучан на работу намесніка старшыні калгаса імя Будзённага. Працуючы на кіруючай рабоце ў калгасе і адначасова ў рэдкалегіі насценгазеты, ён не спыняе сваёй барацьбы з ворагамі калгаснага ладу, з раскрадвальнікамі сацыялістычнай маёмасці. Не раз пісаў тав. Анікеенка і аб старшыні калгаса Рабенку, аб недахопах у яго кіраўніцтве калгаснай гаспадаркай.

Рабенка пачынае патражаць, заяўляючы на сходзе калгаснікаў, што ён паадбівае рукі ўсім тым, хто будзе пісаць пра яго. А калі пагрозы не дапамаглі, старшыня калгаса зняў Анікеенку з работы.

Раённая газета паведамляе аб гэтым факце без усякіх заўваг ад сябе. Такія паводзіны рэдакцыі, якая апынулася ў ролі пабочнага назіральніка, нас больш чым здзіўляюць. Справай селькора Анікеенкі абавязана заняцца і партыйная арганізацыя і раённая газета.

## СУД НАД ПРАСЛЕДВАЛЬНІКАМ СЯМ'І СЕЛЬКОРА ПІЛІПОВІЧА

Селькор глускай раённай газеты **«Сцяг калектывізацыі» Піліповіч Сямён** у свой час выкрыў шкодніцтва зросшагася з класава-варожымі элементамі п'яніцы, старшыні калгаса **Шаўчуліса**. Шаўчуліс—сын былога жандара, пачынае помсціцца Піліповічу. Ён забірае ў сям'і Піліповіча хлеў і пакідае жывёлу на двары. Ён праследуе селькора Сямёна Піліповіча.

У лістападзе 1934 года Піліповіч ідзе ў рады Чырвонай арміі. Шаўчуліс смялей пачынае сваё праследванне сям'і селькора.

5-га красавіка ўсю справу аб праследванні селькора Піліповіча разгледзеў народны суд Глускага раёна. Шаўчуліс прыгавораны да 3 год пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў аддалёных мясцовасцях СССР.

# АБ ПАБУДОВЕ РЭДАКЦЫЙНАГА АПАРАТА

**(З ПАДРУЧНІКА «РЭДАГАВАННЕ І МАСАВАЯ РАБОТА БОЛЬШЭВІЦКАГА ДРУКУ»).**

«У заводскім друку, які за апошнія гады шырока разгарнуўся і вырас у вялікую сілу, як гэта ні дзіўна, пісьмы, заметкі і артыкулы рабочых друкуюцца на «ўскрайку» газеты, настаянныя платныя штаты раздуты, даходзяць да 22 чалавек у заводскай газеце. У заводскім друку не заўсёды добра падабраны кадры. Ёсць выпадкі, калі людзі, выкінутыя з абласных і цэнтральных газет, пападаюць у заводскія і пачынаюць запаўняць старонкі сваім матэрыялам, а рабкораўскія пісьмы не друкуюць.

Гэта зусім нецярпіма. Рабочаму пісьму і заметцы павінна належаць цэнтральнае месца ў заводскай газеце. Рабкоры павінны рабіць газету. Ва ўсёй сваёй рабоце заводская газета павінна быць цесна звязана з «лёгкай кавалерыяй» і з прафсаюзнікамі-кантралёрамі і сумесна з імі кантраляваць работу заводскіх арганізацый, правяраць выкананне дырэктыў партыі і ўрада» [1]).

Гэтыя ўказанні тав. Кагановіча па сутнасці з'яўляюцца адказам на пытанне, **якім** павінен быць апарат масавай газеты. Дадатная асаблівасць і адрозніваючая рыса газеты, як комуністычнага прадпрыемства, у тым і заключаецца, што яна ствараецца найшырэйшымі масамі працоўных. **Апаратам газеты ў шырокім сэнсе гэтага слова з'яўляюцца рабселькоры, актывісты-чытачы, усе тыя, хто ў той ці іншай меры дапамагаюць арганізацыі і пашырэнню большэвіцкага слова.**

[1]) Прамова тав. Кагановіча на пленуме Камісіі партыйнага кантроля пры ЦК ВКП(б) ад 28 ліпеня 1934 г.

Пры такім падыходзе да апарата газеты (а іншы падыход немагчымы) пытанне аб праверцы людзей і праверцы выканання ёсць па сутнасці пытанне аб сапраўдным ажыццяўленні кожнай газетай яе ролі калектыўнага арганізатара.

Вялікі апарат у газеце азначае адначасова адрыў ад масавай базы, аслабленне сувязі з рабочым карэспандэнтам і чытачом, а гэта ў сваю чаргу вядзе да пагардлівых адносін к рабочаму пісьму, к няпоўнаму разуменню і недаацэнцы яго месца і значэння для кожнай заводскай і палітаддзельскай газеты.

Як-жа павінен быць пабудован апарат масавай газеты?

Адзінай схемы пабудовы апарата, годнай для ўсіх тыпаў газет, для ўсякіх умоў работы—няма і не можа быць. Правільна арганізаваць апарат рэдакцыі—гэта значыць правільна расставіць людзей, чотка размеркаваць паміж імі работу. Людзей трэба расстаўляць у залежнасці і ў адпаведнасці з канкрэтнымі задачамі, якія стаяць на **даны** адрэзак часу перад рэдакцыяй газеты. Задачы гэтыя не аднолькавыя ў заводскай і транспартнай газеце, у газеце соўгаса, МТС і раённай. Вось чаму мы і не імкнемся даваць суму агульнаабавязковых рэцэптаў, а пастараемся на аналізе некалькіх планаў перабудовы газет паказаць, як трэба падыходзіць да пабудовы апарата, якія адказы трэба даваць на пытанні, што ўзнікаюць у сувязі з перабудовай рэдакцыі пэўнай газеты.

Для таго, каб перабудоўвацца, змяняць што-небудзь у арганізацыі, сістэме работы, трэба перш за ўсё ўстанавіць, дзе

самыя слабыя звенні, што перашкаджае газеце выконваць ролю калектыўнага агітатара, прапагандыста і арганізатара. Без папярэдняга выяўлення слабых бакоў, без таго, каб не ўстанавіць прычыны недахопаў, іх сутнасці, нельга дакладна ўстанавіць, што-ж трэба рабіць.

Такім чынам першая **папярэдняя** ўмова для правільнага выканання рашэнняў партыі аб перабудове—гэта да канца выявіць, прашчупаць усе недахопы газеты. Высьветліць не толькі ў парадку абмену думак у калектыве, але перш за ўсё ў сваіх асноўных чытачоў. Параіцца з рабочымі, калгаснікамі, з лепшымі з іх—з ударнікамі. Параіцца з рознымі групамі рабочых, калгаснікаў.

Уся гэта работа павінна паказаць рэдакцыі, рэдактару, што сёння ёсць у газеце і чаго не хапае. Толькі такая праверка «адкрые вочы» рэдактару, пакажа, з якога канца трэба падыходзіць, на чым у першую чаргу сканцэнтраваць сілы, ўвагу.

Гэтага асноўнага патрабавання не ўлічыў рэдактар газеты «Ударнік совхоза». Пытанні перабудовы ён звёў да наклейкі ярлычкоў. У невялікай палітаддзельскай газеце выраШылі стварыць **7 аддзелаў**. Тут і партаддзел, і комсамольскі аддзел, і тэхаддзел, і профаддзел, і жонаддзел, і дзіцячы аддзел, і статаддзел.

Але стварэннем аддзелаў справа не скончылася. Перад намі выпіска з плана, накіраванага т. Лётнікаву—«члену рэдакцыі і кіраўніку тэхаддзелам». З гэтай выпіскі мы даведваемся:

**а) Пасядджэнні рэдакцыі праводзяцца тры разы ў месяц.**

**б) Тэхаддзел атрымлівае месца на старонках газеты тры разы ў месяц—7, 17, 27. Толькі на гэтых днях газета будзе асвятляць стан машын, ход рамонту, работу вынаходцаў, тэхвучобу ў баразне, аварыйнасць і барацьбу з ёю і т. д.**

**в) Кожны з аддзелаў арганізуе для свайго аддзела сетку рабкораў. «Для глыбокага выяўлення арганізуецца спецыяльная брыгада. Сістэматычна вядуць работу са сваім актывам (праз злёты, пісьмы і жывы інструктаж)».**

**г) Строга ўлічваць заметкі рабкораў. На непрапушчаныя заметкі даваць адказы, чаму не прапушчаны. Строга сачыць за выкананнем высоўваемага праз «Ударнік».**

У чым асноўныя памылкі падобнага падыходу?

1. Рэдактар перастаў быць арганізатарам селькораў, арганізатарам усёй работы газеты. Работу газеты разлажылі па палічках, фармальна ўстанавіўшы тэрміны прахаджэння таго ці іншага пытання (толькі ў пэўныя дні даюцца матэрыялы па пэўных пытаннях, а не тады, калі ёсць сапраўдная патрэбнасць),—жывы план газетнай работы аказаўся падменены бюракратычнай паперкай.

2. Замест ліквідацыі функцыяналкі, замест сцягвання ў **адзіныя** рукі ўсіх ніцей кіраўніцтва работай газеты, рэдактар стаў на шлях **фармальнага расшчаплення** аднаго і таго-ж пытання па некалькіх палічках. Бо ясна-ж, што пісаць аб стане рамонту без таго, каб не паказаць людзей, метадаў кіраўніцтва, становішча партыйнай работы, зусім немагчыма. А між тым «па схеме» гэтыя пытанні знаходзяцца ў розных аддзелах.

3. Кіраўніцтва рабселькорамі аказалася расшчэпленым. 7 таварышоў будуць адначасова кіраваць аднымі і тымі-ж людзьмі. Бо ясна-ж, што калгаснік піша ў газету адначасова па розных пытаннях. Не бывае так, каб кожны селькор, рабкор пісаў па аднаму толькі пытанню. Калі следаваць схеме, прынятай ва «Ударніке», то адзін і той-жа рабкор будзе атрымліваць указанні ад 7 таварышоў. Карысці ад гэтага ніякай, а шкода можа атрымацца вялікая.

Чаму атрымаўся такі «вывіх»? Таму, што рэдактар да пытанняў арганізацыі работы рэдакцыйнага апарата падышоў без уліку спецыфічных асаблівасцей газеты, не прадумаў таго, што апарат газеты—гэта не апарат наркамата, установы, не падумаў над тым, што апарат газеты—гэта армія рабселькораў, увесь актыў, на які газета апіраецца, з дапамогай якога яна арганізуе сваю работу. Рэдактар не падумаў над тым, што работнікі рэдакцыі масавай газеты, як і ўсякай большэвіцкай газеты—гэта перш за ўсё арганізатары, асноўная задача якіх заключаецца ў тым, каб дапамагчы рабочаму, калгасніку арга-

нізавацца вакол газеты і праз газету прымаць больш актыўны ўдзел у вырашэнні канкрэтных гаспадарчых і іншых задач.

Што павінна забяспечыць правільная арганізацыя апарата палітаддзельскай і заводскай газеты?

Асноўнае—гэта **больш паглыбленае асваенне пытанняў,** якімі газета займаецца, большае прыцягненне мас да ўдзелу ў газетнай рабоце, больш сістэматычная работа з рабселькорамі, больш старанны і дыферэнцыяваны падыход да асобных цэхаў, брыгад, калгасаў, вёсак, больш увагі да асабістых патрэб і запросаў асобных рабочых, работніц, калгаснікаў і калгасніц.

Ці дапаможа гэтаму стварэнне пастаянных аддзелаў? І гэта пытанне нельга вырашыць метафізічна. Яго трэба вырашыць дыялектычна. Нельга разглядаць аддзелы ў газеце пры ўсякіх умовах, як праяўленне функцыянальнасці, — пытанне ў тым, якія аддзелы, як яны арганізаваны, якую канкрэтную функцыю выконваюць. З гэтага пункту гледжання, бясспрэчна, памылковым было рашэнне раду абласных і краявых газет аб ліквідацыі партыйных сектароў, сектароў масавай работы і г. д.

У абласной, краявой газеце аддзелы на даным этапе работы, бясспрэчна, патрэбны. Яны могуць быць не пастаяннымі, але ў газеце, у якой працуюць некалькі дзесяткаў чалавек, неабходна не толькі размеркаванне абавязкаў на кожны кароткі адрэзак часу, але і больш ці менш пастаянная ўстойлівая спецыялізацыя.

Інакш стаіць справа ў заводскай, раённай, палітаддзельскай газеце. Увесь вопыт работы гэтых газет на працягу апошніх гадоў гаворыць аб тым, што існаванне аддзелаў тут нямэтазгодна. Фабрычна-заводскія, раённыя і палітаддзельскія газеты — гэта газеты з мінімальным апаратам. 3—5 чалавек—вось штат газеты. Пры такой колькасці работнікаў няма патрэбы ствараць аддзелы; фармальна па клетачках раскладваць усю работу рэдакцыі пры адсутнасці магчымасці гэта размеркаванне захоўваць. Стварэнне аддзелаў азначае, што кожны работнік на **вельмі доўгі перыяд** часу спецыялізуецца ў пэўнай галіне. Такая спецыялізацыя немагчыма ў калектыве, дзе працуе ўсяго некалькі чалавек і дзе абавязковай умовай работы з'яўляюцца пастаянныя раз'езды.

Правільная арганізацыя работы масавай газеты пры мінімальным штаце пастаянных работнікаў магчыма пры захаванні двух асноўных прынцыпаў: першае — абавязкова працаваць па плану з дакладным размеркаваннем тэм, пытанняў, асобных заданняў сярод работнікаў на кожны адрэзак часу; другое — **абавязковая замяняемасць** аднаго работніка другім, паколькі вузкая спецыялізацыя немагчыма ні ў адной масавай газеце. Кожны работнік павінен ведаць усе галіны калгаснай, соўгаснай вытворчасці або вытворчасці данага завода, фабрыкі. Гэта не выключае пэўнай спецыялізацыі, больш паглыбленага ведання спецыяльнай галіны данай гаспадаркі, але пры гэтым абавязкова веданне гаспадаркі ў цэлым. Адзін работнік палітаддзельскай газеты можа лепш ведаць машыны, другі—паляводства, трэці — жывёлагадоўлю. Але зусім абавязкова, каб кожны работнік змог замяніць свайго таварыша ў момант яго раз'ездаў.

**Кіраўніцтва селькорамі павінна знаходзіцца ў руках самога рэдактара.** Гэта не значыць, што другія работнікі рэдакцыі не займаюцца выхаваннем рабселькораў. Займаюцца абавязкова, але пад кіраўніцтвам рэдактара, па яго даручэнню і пад яго штодзённым кантролем.

Значная частка заводскіх газет, перабудоўваючы свой апарат, стала на шлях прымацавання асноўных рэдакцыйных работнікаў да цэхаў. Таварыш, прымацаваны да цэха, асвятляе ўсе пытанні данага цэха на старонках газеты, арганізуе рабкораў, сочыць за рэалізацыяй прапаноў газеты па данаму цэху. Вопыт такой перабудовы на радзе буйных прадпрыемстваў сябе апраўдаў. Прымацаванне да цэхаў дае магчымасць рэдакцыі лепш ведаць, што робіцца на кожным участку прадпрыемства. Адначасова такая расстаноўка людзей забяспечвае лепшае кіраўніцтва нізавым друкам, насценнымі газетамі, рабкорамі, пашырае масавую базу газеты.

Ці трэба палітаддзельскім і раённым газетам станавіцца на шлях размеркаван-

ня сваіх работнікаў па тэрытарыяльнаму прынцыпу? Пытанне гэта павінна вырашацца ў кожным асобным выпадку. Аднак мы лічым неабходным папярэдзіць ад захаплення падобнымі мерапрыемствамі, паколькі такая сістэма прымацавання звужае манеўраздольнасць рэдакцыі сваімі кадрамі.

Адмаўленне ад стварэння аддзелаў у заводскім, раённым і палітаддзельскім друку асабліва выпукляе значэнне плана і планавання газетнай работы. Рэдакцыя кожнай газеты павінна працаваць на аснове добра прадуманага плана. План гэты павінен складацца пры ўдзеле рабселькораў, усяго актыва чытачоў. Ліквідацыя абязлічкі ў газетнай рабоце павінна ў прыватнасці сказацца ў тым, што, выпрацоўваючы план на той ці іншы тэрмін, неабходна дакладна ўстанавіць, хто, які пункт плана ажыццяўляе, у якія тэрміны, калі і якім чынам тое ці іншае пытанне ў газеце будзе ставіцца.

**
*

Немалое значэнне для правільнай арганізацыі работы рэдакцыі мае і сістэма аплаты працы. Рэдактар газеты «На лесном фронте» прыняў наступны парадак аплаты працы:

**«Пастулаючыя ў рэдакцыю заметкі рэгіструюцца і паступаюць да рэдактара. Згодна прынятага плана, па кожнаму кусту павінна паступіць не менш 4 рабселькораўскіх пісем у падборку не пазней 12 гадзін дня, які ўказан на пуцёўцы. Калектыўныя брыгадныя карэспандэнцыі прымаюцца ў разлік за дзве заметкі, а заметкі самога інструктара ў разлік не прымаюцца. З кожнай рабселькораўскай заметкі, паступіўшай у рэдакцыю, змешчанай у газеце, інструктар атрымлівае 1 рубель (ганарар селькорам і за асабістыя заметкі супрацоўнікам аплачваецца асобна), прычым заметкі, якія не пацвердзіліся, не аплачваюцца, а заметкі з псеўдонімамі аплачваюцца інструктару па 50 кап. Гэта мерапрыемства прымушае інструктароў весці масавую работу з рабселькорамі, каб яны правяралі факты сваіх заметак і не ўтойвалі свайго прозвішча.**

**У выпадку паступлення ў падборку менш 4 заметак інструктар штрафуецца ў размеры 1 рубля з недаданай заметкі».**

Што няправільнага ў гэтым рашэнні?

Па сутнасці мы тут маем яркае праяўленне неразумення сутнасці газеты, механічнае перанясенне (да таго-ж няправільна зразуметых) метадаў аплаты працы ў прамысловым прадпрыемстве. І на заводзе, і ў калгасе аплата ажыццяўляецца па колькасці і якасці працы. У даным выпадку пытанне аб якасці газетнага матэрыялу, аб яго актуальнасці прапала. Асталося голае патрабаванне прадстаўлення пэўнай колькасці карэспандэнцый ва ўстаноўлены тэрмін. Падобнага роду здзельшчына можа прывесці толькі да адмоўных рэзультатаў.

Партыя ва ўсёй рабоце змагаецца з метадамі адміністравання. Тым больш недапушчальны метады адміністравання ў друку. Мы за тое, каб рабочыя і калгаснікі падпісвалі свае карэспандэнцыі сваім прозвішчам. Скарачэнне колькасці псеўдонімаў ёсць паказальнік росту свядомасці, палітычнай спеласці рабселькораў. Рэдакцыя газеты абавязана з дня ў дзень весці работу над тым, каб рабкоры, селькоры падпісваліся поўнасцю. Такая работа патрэбна, неабходна. Але яна не мае нічога агульнага з метадамі, прапанаванымі рэдакцыяй «На лесном фронте» (зніжаць аплату на палову за карэспандэнцыі з псеўдонімам параўнальна з карэспандэнцыяй без псеўдоніма). Паставіць заработак інструктара ў залежнасці ад таго, колькі калгаснікаў падпісалася псеўдонімамі, — значыць штурхаць інструктароў на няправільны шлях, штурхаць іх на шлях адміністравання.

У газету нельга пераносіць звычайныя метады здзельшчыны, якія прымяняюцца на заводзе, фабрыцы. **Пастаянная аплата** ў спалучэнні з сістэмай прэміравання за лепшае выкананне той ці іншай работы, за праяўленую ініцыятыву ў пастаноўцы таго ці іншага пытання, за лепшую арганізацыю работы з рабселькорамі і т. д.— вось правільная сістэма аплаты працы.

Работа кожнага работніка рэдакцыі павінна быць дакладна вызначана. Газета павінна даваць узоры сацыялістычнай ар-

ганізаванасці, ажыццяўлення ленінскага стылю ў рабоце. Метады соцыялістычнага спаборніцтва павінны прапітаць усю дзейнасць кожнай рэдакцыі: спаборніцтва на лепшае правядзенне асобных мерапрыемстваў, кампаній, на лепшую арганізацыю нізавога друку, на больш высокую дзейснасць, больш старанную апрацоўку матэрыялаў, за лепшую работу над мовай і афармленнем газеты—усе гэтыя пытанні павінны быць аб'ектам **штодзённага** спаборніцтва паміж работнікамі рэдакцыі. Сутнасць іменна ў тым, каб метады спаборніцтва сталі асновай арганізацыі работы. Сутнасць не ў шматлікіх дагаворах, не ў шуміхе вакол спаборніцтва, а ў сістэме арганізацыі работы. Шырока арганізаванае спаборніцтва з'яўляецца найлепшым метадам пастаяннага паляпшэння работы рэдакцыі.

У прымяненні да друку асноўныя патрабаванні партыі аб перабудове заключаюцца галоўным чынам у змене метадаў работы, у паляпшэнні сістэмы кіраўніцтва, а не ў выдумванні ўсё новых схем арганізацыі газетнага апарата. Газета, як калектыўны арганізатар мас, павінна мець надзвычай успрыемлівы, рухавы апарат, які ўвесь час удасканальвае метады сваёй работы.

**Перабудоўваць трэба іменна метады работы, сістэму кіраўніцтва.** Той, хто падмяняе такую перабудову зменай шыльдаў, той не аблягчае сабе кіраўніцтва газетай, а стварае дадатковыя труднасці, зніжаючы арганізатарскую ролю бальшавіцкай газеты. Барацьба за сапраўдную перабудову кожнай газеты, гэта, **па-першае,** барацьба за сапраўды бальшэвіцкую вытрыманасць, прынцыповасць, за планавасць у рабоце; **па-другое,** гэта—барацьба за чоткае размеркаванне работы ўнутры кожнага калектыва, у кожны даны момант у адпаведнасці з канкрэтнымі задачамі дня; **па-трэцяе**, гэта — барацьба за штодзённую праверку выканання, якая забяспечвае няўхільнае павышэнне дзейснасці газетных выступленняў; **па-чацвертае, гэта—** барацьба за арганічную сувязь кожнай мясцовай справы з агульнымі партыйнымі дырэктывамі, барацьба за ўменне звязаць самую маленькую справу ў цэху, у брыгадзе з канчатковымі мэтамі, пастаўленымі партыяй у другой пяцігодцы; **па-пятае,** гэта — барацьба за ўсямернае расшырэнне сувязі з рабочымі, работніцамі, калгаснікамі і калгасніцамі, за тое, каб кожны нумар газеты рабіўся дзесяткамі людзей, якія прымаюць непасрэдны і актыўны ўдзел у будаўніцтве нашай прамысловасці, новай калгаснай вёскі, якія змагаюцца за бальшавізацыю калгасаў, за заможнае жыццё ўсіх працоўных, за пабудову соцыялістычнага грамадства.

---

Ініцыятыва практыка вопыт

## ЮБІЛЕЙ 300-ГА НУМАРА КАЛГАСНАЙ НАСЦЕНГАЗЕТЫ

5-га красавіка Лёзненская раённая газета **«Ленінскі сцяг»** была прысвечана юбілею старэйшай у раёне насценгазеты калгаса «Бязбожнік». У гэты дзень вышаў 300-ы нумар насценгазеты **«Ўдарнік калгасных палёў»**.

Раённая газета расказала аб вопыце партыйнага кіраўніцтва нізавым друкам калгаса. Газета змясціла выступленні рэдактароў брыгадных насценгазет, якіх у калгасе тры, селькораў, расказала, як пры дапамозе нізавога друку і селькораў калгас з адстаючых стаў перадавым калгасам раёна.

**Дзень юбілею калгаснай насценгазеты з'явіўся вялікай урачыстасцю для калгаснікаў «Бязбожніка».** На юбілей насценгазеты з'явіўся сакратар райкома партыі тав. **Дзеніскевіч,** прадстаўнік журнала «Рабоче-крестьянский корреспондент» тав. **Лепілева.** Калгаснікі з'явіліся на ўрачыстасць у новых касцюмах, жанчыны былі прыбраны па-святочнаму.

Калгасны клуб, у якім гралі два духавыя аркестры, ледзь умяшчаў сабраўшыхся на юбілей старэйшай у раёне насценгазеты.

## ЗЛЁТ СЕЛЬКОРАЎ НЯКЛЮДАЎСКАГА СЕЛЬСОВЕТА

Каля 200 пісем атрымала за апошнія тры месяцы рэдакцыя **«Калгасніка Беларусі»** ад селькораў Няклюдаўскага сельсовета, Талачынскага раёна.

Каб дапамагчы селькорам у іх рабоце, актывізаваць работу насценгазет на сяўбе і дабіцца большэвіцкага рэагавання на кожнае селькораўскае пісьмо, рэдакцыя «Калгасніка Беларусі» правяла ў Няклюдаве агульнасельсовецкі злёт селькораў. На злёце, апрача селькораў, прысутнічалі работнікі сельсовета, старшыні калгасаў, брыгадзіры.

У сваіх выступленнях селькоры выкрылі рад злоўжыванняў (жульніцтва, абкраданне спажыўца) у рабоце мясцовай кааперацыі, у калгасе «Чырвоная іскра», «Ударнік».

Селькоры ўнеслі прапанову: прасіць рэдакцыю газеты «Калгаснік Беларусі» наладзіць рэгулярнае выданне літаратурнай старонкі.

## ПАХОД ЗА КУЛЬТУРУ КАЛГАСНАЙ ВЁСКІ

Глуская раённая газета **«Сцяг калектывізацыі»** ўключылася ў абвешчаны райкомам КП(б)Б і РВК паход за культуру калгаснай вёскі. 12-га красавіка газета расказала аб цікавым пачынанні калгаснікаў калгаса «Чырвоны маяк» па ачыстцы двароў і вуліц і ўпрыгожанні іх зелянінай. Па ініцыятыве комсамольца **Казлова** калгаснікі агароджваюць свае двары і вуліцы, абсаджваюць іх дрэвамі. Праўленне калгаса арганізавала калектыўнае зашкленне вокан у хатах калгаснікаў. Калгасныя хаты атынкоўваюцца і белянца.

Калгаснікі і аднаасобнікі вёскі Старая Дуброва ўсю вуліцу абсадзілі дрэвамі, сочаць за чыстатой у хатах і дварах.

## НАША НАСЦЕНГАЗЕТА СТАНЕ ПЕРАДАВОЙ У РАЁНЕ

Петрыкоўская раённая газета **«Калгаснік Петрыкоўшчыны»** друкуе справаздачу дэлегата III усебеларускага з'езда рабселькораў тав. **Купермана.**

Перавыбраная пасля з'езда рабселькораў рэдкалегія калгаснай насценгазеты правяла рэйд па праверцы падрыхтоўкі да сяўбы і якасці першых палявых работ. Па ініцыятыве насценнай газеты ў калгасе арганізован літаратурны гурток. На агульным сходзе калгаснікаў рэдкалегія ўнесла прапанову арганізаваць у калгасе струнны гурток. Гурток створан.

**Яго першае выступленне на калгаснай сцэне прыўрочана да 1 мая.**

Тав. Куперман абавязаўся заваяваць для сваёй газеты права на званне перадавой насценгазеты ў раёне.

## «ДЗЕНЬ СТАРШЫНІ КАЛГАСА»

Чачэрская раённая газета **«Сцяг калектывізацыі»** паставіла задачай на вопыце перадавых старшынь калгасаў паказаць лепшую арганізацыю рабочага дня старшыні калгаса. На першы раз газета паказала работу старшыні калгаса «Пралетарый» тав. Ісакава, які «без мітусні і бегатні знайшоў час пабываць і на ферме, і на полі, пагаварыць з калгаснікамі...». Безумоўна ёсць яшчэ недахопы і ў арганізацыі рабочага дня ў старшыні калгаса «Пролетарый». Адзін з такіх недахопаў адзначае і «Сцяг калектывізацыі». Тав. Ісакаў, напрыклад, за ўвесь дзень не знайшоў некалькі мінут, каб прагледзець хоць адну з цэнтральных газет.

Заслугоўвае ўвагі тое, што рэдакцыя ўзнімае пытанне аб лепшай арганізацыі рабочага дня старшынь калгасаў, імкнецца лепшы вопыт арганізацыі работы перадаць адстаючым калгасам.

## СЕЛЬСОВЕЦКАЯ ШМАТТЫРАЖКА

У **Машчанскім сельсовеце, Сенненскага раёна,** пачала выдавацца агульнасельсовецкая шматтыражка. Газета выходзіць у 12 экземплярах і рассылаецца ва ўсе калгасы сельсовета.

Газета выходзіць адзін раз у тры дні. Яна асвятляе ход сяўбы ў паасобных калгасах сельсовета, дапамагае ўскрываць недахопы сяўбы, папулярызуе вопыт перадавых калгасаў.

## СУСТРЭЧА АГІТЗВЯНА САМАЛЁТАЎ ІМЯ З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ

Брагінская раённая газета **«Трыбуна калгасніка»** актыўна рыхтуецца да сустрэчы агітзвяна самалётаў імя 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Рэдакцыя раённай газеты рыхтуе калектыўны рапарт нізавых газет аб іх рабоце на сяўбе. Рэдкалегіі калгасных насценгазет уключыліся ў спаборніцтва на лепшую работу насценгазет і селькораў. Права першага палёту на самалёце заваюе тая рэдкалегія, якая пакажа найлепшыя ўзоры масавай апературнай работы ў барацьбе за высокі ўраджай, за якасць сяўбы, за сацыялістычную жывёлагадоўлю.

---

# ПАДПІСЧЫКІ ГАЗЕТ І ЖУРНАЛАЎ

**УКЛЮЧАЙЦЕСЯ Ў БАРАЦЬБУ ЗА АКУРАТНУЮ ДАСТАЎКУ ДРУКУ.**

**Даламагайце пошце наладзіць работу апарата.**

**Калі вам не дастаўляюцца або дрэнна дастаўляюцца газеты і журналы, патрабуйце ад абслугоўваючага вас паштовага аддзялення акуратнай і своечасовай дастаўкі вам выпісаных выданняў.**

**ВЕДАЙЦЕ, што па дагавору паміж выдавецтвам і Народным камісарыятам сувязі ўсе без выключэння**

**ПРАДПРЫЕМСТВЫ СУВЯЗІ АБАВЯЗАНЫ:**

**1. Расследаваць і задавальняць скаргі падпісчыкаў на дрэнную дастаўку друку ў двухдзенны тэрмін.**

**2. Мець і прад'яўляць па першаму патрабаванню падпісчыкаў кнігу скаргаў на дрэнную дастаўку друку· [redacted]**

**3. Вывесіць на відным месцы абвесткі аб тэрмінах дастаўкі друку.**

**4. Поўнасцю варочаць падпісчыкам падпісныя сумы на невыкананую падпіску.**

**Рэдакцыя журнала «Бальшэвіцкі друк», Цэнтральнае агульна-выдавецкае бюро кантролю за экспедыраваннем і дастаўкай друку.**




Менск, друкарня „Звязды" Здана ў набор 26—IV-35 г. Падпісана да друку 4—V—35 г.
Уп. Галоўлітбела №—2.876 Тыраж 1.150 экз. 3 друк. арк. У арк. 75.000 зн.

